# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 38 (708) 21 ВЕРАСНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ФЕСТЫН У СУШЧЫ

Над рэчкай Нарвай каля вёскі Сушча, што ў Беластоцкім павеце, 7-га верасня адбыўся фестын БГКТ прысвечаны 25 гадавіне Народнай Польшчы. Быў ён спалучаны з вясковымі дажынкамі грамады Юшкаў Груд.

На гэтую ўрачыстасць сабралася каля 2 тысяч чалавек. Асабліва многа было моладзі. Тут пры вялікай бярозе пастаўлены былі дзве самаходныя прычэпы, якія былі трыбунай. З двух бакоў прычэпаў укапаны бярозкі, якія разам з бела-чырвонымі і чырвонымі палотнішчамі складалі прыгожую дэкарацыю трыбуны. Уверсе над трыбунай віднеў вялікі надпіс «Працай вітаем 25 гадавіну ПНР».

Урачыстасць пачалася ў 12 гадзін. На трыбуну ўвайшлі прадстаўнікі Беларускага таварыства і прадстаўнікі павятовых і мясцовых улад у асобах: старшыні і сакратара ГП БГКТ Міхася Хмялеўскага і Янкі Зенюка, інструктара КП ПАРП — Юзэфа Любэцкага і сакратара Павятовага праўлення сельгасгурткоў — Пятра Санюковіча, члена ГП БГКТ Васіля Баршчэўскага і старшыні Міхалоўскага аддзела БГКТ Антона Саковіча, старшыні ГРН у Юшкавым Грудзе Рыгора Палецкага і старшыні сельгасгуртка ў Сушчы Аляксандра Анхіма, а таксама старшынь сельгасгурткоў у Юшкавым Грудзе і Багнюках — Анатоля Леўшы і Сцяпана Багнюка. Вучні са школы ў Круглым Ляску ўручылі ўспомненым асобам прыгожыя кветкі. Пасля старшыня ГРН у Юшкавым Грудзе Рыгор Палецкі кароткай прывітальнай прамовай адкрыў урачыстасць і даў слова для даклада члену ГП БГКТ Васілю Баршчэўскаму. У абшырным і змястоўным дакладзе Васіль Баршчэўскі гаварыў аб аграмадных дасягненнях Народнай Польшчы, а ў тым ліку і Беласточчыны, аб грамадскім авансе беларускага насельніцтва ў Польшчы, аб 30 гадавіне трагічнага для нашай краіны верасня.

Пасля даклада пачалася мастацкая частка, якая працягвалася больш 2 гадзін. Выступілі тут эстрада ГП «Лявоніха» і адзінаццаціасабовая эстрада з Арэшкава, якою апякуецца Гайнаўскі аддзел БГКТ.

На фестыне ў Сушчы было шмат іншых цікавых мерапрыемстваў, а менавіта: нашыя літаратары Сакрат Яновіч і Віктар Швед падпісвалі свае кніжкі, была арганізавана «Згадуй-Згадуля» з кніжнымі ўзнагародамі, латарэя Міхалоўскага ГС-у, у якой кожны куплены нумар меў атракцыйныя артыкулы як: чайнікі, міскі, кубкі, апоны да вазоў і т.д. Міхалоўскі ГС забяспечыў удзельнікаў фестыну таксама марожаным.

Надвячоркам пачалася забава на спецыяльна падрыхтаванай вялікай пляцоўцы.

### КАНЦЭРТ «ЛЯВОНІХІ»

5 кастрычніка ў 18 гадзін у памяшканні ГП эстрада «Лявоніха» дасць канцэрт для членаў і сімпатыкаў нашага таварыства.

### ПРАБЛЕМНЫ КУРС

Пачынаючы ад кастрычніка ў кожную сераду ў 18 гадзін будуць адбывацца заняткі праблемнага курса, арганізатарам якога з'яўляецца гарадскі аддзел.

### ПАСЯДЖЭННЕ

3-га верасня адбылося пасяджэнне Прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку з удзелам сакратара ГП Янкі Зенюка. На ім быў зацверджаны план працы аддзела да канца гэтага года.

(мх)



Варшаўскія паўстанцы. Здымак з 1944 г.

## Чэрць стагоддзя назад




### КАТАКОМБЫ ВАРШАВЫ

У паўпадвале было людна. Акружылі мяне, разглядалі мае пагоны і перашэптваліся, напэўна, абмяркоўвалі, які ў мяне чын. Юзэф выйшаў і тут жа вярнуўся з крэслам. Следам за Юзэфам — чалавек, перад якім паўстанцы з павагай расступіліся, каб ён мог падысці да мяне.

— Маёр Сенк, камандзір зводнай групы Арміі Людовай, — адрэкамендаваўся ён.

Дык гэта група Арміі Людовай, партызан, якім кіруе Польская рабочая партыя! Цяпер я мог быць зусім упэўнены ў шчырай дружбе людзей, што акружалі мяне.

— Пошукі вашага таварыша працягваюцца, — гаварыў маёр, пакуль медсястра, скінуўшы з мяне кіцель, перавязвала руку. — Але перш за ўсё скажыце, як справы на фронце?

Я ўзрадаваў паўстанцаў навіной: савецкія і польскія воіны фарсіравалі Віслу ля Пiліцы і на поўдзень ад Сандаміра, на ўсіх франтах націск узмацняўся, і гітлераўцы нясуць велізарныя страты. Пра сябе сказаў толькі, што прыбыў па заданню камандуючага.

Вочы маёра Сенка загарэліся. Ён падняў руку, патрабуючы цішыні. Потым сказаў:

— Вось! Бачыце, сябры, сапраўдная дапамога ідзе з усходу, а не з захаду! Не, мы не адзінокія...

На стале між тым з'явілася куча сухароў і збан з адбітай ручкай. Хажынскі, пажылы чалавек з вялікімі вусамі, падзяліў гэтыя сухары на роўныя кавалачкі, затым пачаў разліваць ваду ў шклянкі, кубкі, флягі. Людзі моўчкі сачылі за ім, і толькі цяпер я заўважыў, якія бледныя іх твары, глыбока запалі вочы.

Паклаўшы пісталет на стол, я расшпіліў кішэню лётнай курткі, дастаў пакет НЗ, разарваў яго і высыпаў на стол усё, што там было. Сенк тут жа зграб усё ў адну кучку, падсунуў да мяне.

— Вазьмі назад! Цяпер нам лягчэй будзе, калі вашы самалёты пачалі скідваць прадукты харчавання. Толькі хутчэй бы... У нас тут многа жанчын, дзяцей...

— Тады няхай гэта будзе для іх!

Хажынскі шумна кашлянуў, хаваючы вільготныя вочы пад кашлатымі бровамі. Юзэф таксама адвярнуўся. Паўстанцы выстройваліся ўздоўж стала ў чаргу па сухары і ваду. Атрымаўшы паёк, яны пайшлі на барыкады.

Маёр Сенк паклікаў Юзэфа:

— Як з другім дэсантнікам?

— Пакуль яшчэ не знойдзен. Дазвольце пайсці на пошукі мне?

Я таксама не мог больш сядзець і думаць, што здарылася з Дзмітрыем. Медсястра не хацела адпускаць мяне. Настойвала, каб я хоць крыху адпачыў. Але мяне непакоіў лёс Дзмітрыя.

Юзэф і Хажынскі павялі мяне па каменных катакомбах горадам. Цяжка расказаць аб гэтым шляху. Мне іншы раз і цяпер яшчэ сняцца вузкія каменныя калідоры, халодныя сцены, агідная плесень і слізкія трубы, за якія даводзілася трымацца, каб не ўпасці. Метраў дваццаць мы ішлі па траншэі не спяшаючыся, каб даўжэй пабыць на свежым паветры, затым спусціліся ў апошні на нашым шляху падвал. Ён быў пусты. Толькі на паўцёмнай лесвіцы сядзеў белабароды паляк. На ім стары мундзір салдата з медалямі і крыжамі. На каленях двустволка. Яе патрэсканае ложа было сцягнута дротам.

— Ваюю вось... — адказаў стары на наша маўклівае пытанне. Затрымаўшы позірк на маіх пагонах, ён устаў і на

Працяг на стар.4



Варшаўскія паўстанцы. Здымак з 1944 г.

Намеры гайнаўскіх улад

## СПРАВЫ НЕАДКЛАДНЫЯ

Пісаць аб мінеральных угнаеннях не зусім прыемна, таму што амаль на кожным кроку чуецца гэтыя словы. Назіраў я актывістаў, адказных работнікаў устаноў, на якіх словы «мінеральныя ўгнаенні» дзейнічалі нібы чырвоная хустка на быка. Мінеральныя ўгнаенні не вельмі разыходзіліся і залягалі склады. З ваяводства лаялі паветы, а павятовыя ўлады выціскалі, што маглі, з сельскагаспадарчай службы ды і наогул з актыву.

Ураджаі — справа агульнадзяржаўная. Дзяржава нясе дапамогу сельскай гаспадарцы, але і вымагае ад гаспадароў. А тым часам?

Аб многім нашыя гаспадары часта не ведаюць. У Гайнаўскім павеце сустрэў нават такіх, якія не ведалі аб зніжцы на штучныя ўгнаенні. Урэшце не адасобленым з'яўляецца наступны прыклад. Гаспадар з вёскі Т. сказаў аграному, які прыйшоў падганяць, каб выкупіў мінеральныя ўгнаенні, што не будзе іх купляць. Аграном спрабаваў гаварыць аб карысцях. На гэта гаспадар сказаў, што, па-першае, паўтары тоны ўгнаенняў ён 65-гадовы чалавек цягаць на плячах не дасць рады. «Паны» ў горадзе ў такім узросце маюць ужо пенсію. А, па-другое, што ён ужо раз даўся намовіцца аграному і пасеяць мінеральныя. Завёў на поле агранома і паказаў яму мятлу. Аграном прыціснуты да сцяны сказаў толькі нашаму гаспадару: «Я разумею, але ад нас вымагаюць і мы вымушаны... Інакш пакараем!»

Іншы прыклад прыводзіць Ул. Паўлючук у рэпартажы «Угнаенні» («Ніва», ад 7 верасня 1969 г., Нр 36).

Што рабіць, каб «навозы» перасталі быць чырвонай хусткай?

У размове з I сакратаром ПК ПАРП у Гайнаўцы А. Лазоўскім я даведаўся аб многіх пачынаннях павятовых улад. Партыйная інстанцыя ў першую чаргу ставіць на членаў партыі. Гаворачы словамі тав. Лазоўскага, нельга дапусціць да таго, каб 80 членаў партыі, як гэта было ў мінулым годзе ў Ляўкове, не выкупіла мінеральных угнаенняў.

Гаспадар павінен ведаць, што нікому не залежыць на тым, каб пакараць яго. Штучныя ўгнаенні гэта перш за ўсё яго ўласнае дабро. Ніхто і ў ніякіх уладах Гайнаўскага павета не думае нават, каб на сілу сцягнуць пратэрмінаваныя штрафы за невыкупленыя ўгнаенні, якіх тут назбіралася больш 2 мільёнаў зл. Дзяржава не хоча ніводнай залатоўкі штрафу. Разыходзіцца пра тое, каб запланаваная неабходная пакупка штучных угнаенняў была рассеяна па палях.

Аднак найважнейшай справай, якая гамуе пакупку ўгнаенняў, нараджае падазронасць гаспадароў, гэта няўменне карыстацца імі. І пакуль гаспадар не навучыцца адпаведна прымяняць гэтае дабро для сваёй зямлі — будуць цяжкасці. А аказваецца, што з гэтым не заўсёды добра радзіць сабе нават сельскагаспадарчая служба. Павятовыя ўлады Гайнаўскага павета ўзялі глыбока гэта пад увагу. У першую чаргу, ужо ў верасні, будзе тут перашколена сельскагаспадарчая служба адносна прымянення мінеральных угнаенняў. Апрача таго ў асенне-зімовы перыяд будзе праведзена сельскагаспадарчае шкаленне ва ўсіх вёсках прысвечанае выключна прымяненню мінеральных угнаенняў.

Многа добрага могуць даць таксама даследчыя ўчасткі. Дагэтуль бывала часта так, што гаспадар атрымліваў бясплатна мінеральныя ўгнаенні на даны ўчастак, а высяваў іх па цэлым полі. Зразумела, што вынікаў не магло быць ніякіх. Зараз у Гайнаўскім справа пастаўлена так, што не гаспадар, а аграном мае гэтым займацца. І калі скажам на такім паказовым палетку нічога не выйшла па якіх-небудзь прычынах, будзе тлумачыцца з гэтага аграном.

Заданні пастаўленыя партыйнай інстанцыяй у Гайнаўскім павеце вострыя, але канкрэтныя і правільныя. Многа тут заданняў непасрэдна для партыйных арганізацый і актыву. Іх нельга не выканаць.

А. Лабановіч.

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ



## БССР



## ПОЛЬШЧА



## ВАЯВОДСТВА

### КАСЫГІН У ПЕКІНЕ

11 верасня г.г. адбылася сустрэча старшыні Савета Міністраў СССР А. Касыгіна, вяртаючагася ў Маскву з Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, з прэм'ерам КНР Чжоў Энь-лаем. Абодва бакі шчыра выяснілі свае становішчы і правялі карысную для абодвух бакоў размову.

Сустрэча адбылася пасля ўзаемнага паразумлення.

### «БАЛАНС ВАЕННАГА СВЕТУ 1969—70»

Такі загаловак мае чарговае выданне лонданскага інстытута стратэгічных студыяў. Да асноўных тэзісаў гэтага года трэба аднесці сцверджанне, што аб стратэгічнай раўнавазе свету вырашаюць СССР і Злучаныя Штаты.

ЗША маюць найбольш, пасля Партугаліі, бо аж 8,7% мужчын у прызыўным узросце, якія служаць у арміі. Узброеныя сілы Злучаных Штатаў налічваюць больш чым 3,4 мільёна мужчын. Выконваюць яны ролю жандармаў амаль ва ўсіх частках свету.

ЗША і Ізраіль з'яўляюцца перадавымі краінамі, калі разыходзіцца аб выдаткі на збраенне ў пераліку на аднаго жыхара. Гэтыя выдаткі сягалі ў 1968 г. у ЗША — 396 доляраў (у 1967 г — 368 доляраў), а ў Ізраілі — 244 долары (у 1967 г. — 124 долары).

Дадзеныя лонданскага інстытута гавораць, што рэгулярныя ўзброеныя сілы Федэратыўнай Рэспублікі Германіі пабольшыліся на працягу апошняга года да 465 тысяч салдат. Адначасова існуе думка, што дадзеныя, апублікаваныя інстытутам, заніжаныя і не ахопліваюць усіх паказчыкаў сапраўднай сітуацыі ў паасобных заходніх дзяржавах.

Сёлеташні баланс звяртае ўвагу на павелічэнне кітайскіх запасаў тэрмануклеарных матэрыялаў, якіх, згодна з прадбачваннямі інстытута, хапіла б на прадукцыю каля 100 атамных бомбаў сярэдняй сілы. Аднак праграма пабудовы кітайскіх ракет, на думку інстытута, апознена.

### БЛІЗКІ ЎСХОД

Паінфармаваныя амерыканскія кругі лічаць, што асноўнай мэтай апошніх паветраных і марскіх атакаў Ізраіля на Аб'яднаную Арабскую Рэспубліку ў раёне Чырвонага мора было аслабленне прэстыжу Каіра як цэнтра арабскага вызваленчага руху.

Мэты гэтай не толькі не асягнута ў рэзультаце чэрвеньскай агрэсіі ў 1967 г., але наадварот, у выніку апошніх здарэнняў арабскі вызваленчы рух умацаваўся. Пераварот у Лівіі змяніў склад сіл у арабскім свеце на некарысць кансерватыстаў супрацоўнічаючых з ЗША і адхіляючыхся ад Каіра. Кароль Саўдыйскай Арабіі чуць не зазнаў лёсу лівійскага караля і згодна з вашынгтонскімі ацэнкамі, не надта пэўны на сваім троне.

### КІТАЙСКІЯ ПРАВАКАЦЫІ

Агенцтва ТАСС паінфармавала, што ад чэрвеня да паловы жніўня г.г. здарылася 488 выпадкаў наўмыснага парушэння дзяржаўнай граніцы СССР і справакавання ўзброеных інцыдэнтаў, у якіх прыймала ўдзел агулам больш, чым дзве з паловаю тысячы кітайскіх грамадзян.

А. К.

### БАЛГАРЫІ

У Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных Мінска, прысвечаны 25-ай гадавіне сацыялістычнай рэвалюцыі ў Балгарыі.

У сходзе прынялі ўдзел: Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Кісялёў, сакратар ЦК КП Беларусі С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаў, міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч.

Прысутныя горача віталі з'яўленне ў прэзідыуме дэлегацыі Усенароднага камітэта балгара-савецкай дружбы на чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў Балгарыі Пятром Танчавым.

З дакладам выступіў намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёў. З вялікай прамовай выступіў Пётр Танчаў.

### ВЕНГЕРСКАЙ

Мінск наведала дэлегацыя партыйных работнікаў Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі на чале з членам Палітбюро, сакратаром ЦК Рэжо Ньершам. Венгерскія госці пабывалі на Мінскай птушкафабрыцы імя Н. К. Крупскай, зрабілі паездку на Курган Славы, агледзелі мемарыяльны комплекс «Хатынь», пабудаваным на месцы адной з многіх беларускіх вёсак, знішчаных фашыстамі разам з жыхарамі і не адроджаных пасля вайны.

### ФІНСКІЯ

У Беларусі пабывала дэлегацыя сацыял-дэмакратычнага саюза рабочых і дробных землеўладальнікаў Фінляндыі на чале з арганізацыйным сакратаром Аарнэ Селінам. Фінскую дэлегацыю прыняў сакратар ЦК КП Беларусі С. Пілатовіч.

### АСІПЕНКА

За плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Аляксандр Асіпенка ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

### АЎТАМАБІЛІСТАЎ

У Мінску адбылося ўрачыстае закрыццё Усесаюзнай спартакіяды аўтамабілістаў і дарожнікаў. Беларусы паказалі добрыя вынікі. Яны занялі чацвёртае месца, прапусціўшы наперад толькі моцныя каманды Украіны, Расіі і Масквы.

### ПЕРШЫ

У першы дзень работы новага, другога, універсітэта на Беларусі — Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта — выйшаў першы нумар шматтыражнай газеты «Гомельский университет».

### КАМПУСАНА

Прафесар Хоакін Малана Кампусана, член савета Калумбійскага ўніверсітэта імя Хорхе Тадэо Ласана, выступіў па радыёстанцыі «Арысантэ», расказваючы пра свае ўражанні ад паездкі ў Беларусь. «— Беларусь — краіна высокай культуры», м.ін. сказаў праф. Кампусана.

(С.Я.)

### ПРАФСАЮЗЫ

Удзел прафсаюзаў і рабочага самакіравання ў рэалізацыі пастаноў II пленума партыі быў прадметам пасяджэння Прэзідыума Цэнтральнай рады прафсаюзаў. Прэзідыум прааналізаваў тэзісы даклада на бліжэйшае пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады, якое прысвечана будзе ролі польскіх прафсаюзаў ва ўмацаванні адзінства сусветнага прафсаюзнага руху.

### СЛУЖБА ЗДАРОЎЯ

Выдаткі на службу здароўя складаюць у нас каля 8 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту. Польшча належыць да краін, у якіх найніжэйшы паказальнік смяротнасці. Сярэдняе жыццё грамадзян у параўнанні з перыядам 1931—1932 г.г. павысілася на блізка 20 гадоў. За перыяд 25-годдзя адукацыю атрымала каля 40 000 лекараў, 10 000 зубных лекараў і 80 000 медсясцёр.

### ГІСТОРЫКІ

У Любліне адбыўся X з'езд польскіх гісторыкаў. Прыняло ў ім удзел каля 900 асоб з усяе краіны, а таксама госці з-за мяжы. Быў гэта першы з'езд гісторыкаў, на якім узята пад дакладны навуковы аналіз польскую справу ў 1939—1945 гадах. Таксама ўпершыню навукова перааналізавана генезіс Народнай Польшчы.

### ДЗЁННІК

У зборах рукапісаў бібліятэкі Ассалінеум у Вроцлаве знойдзена дагэтуль невядомы і нідзе не публікаваны дзённік генерала Уладзіслава Сікорскага. З'яўляецца ён зборам нярэгулярна ведзеных запісак і рэфлексій на палітычныя тэмы, пісаныя ў 1934—1939 гадах.

### «НА ВАГУ ЗОЛАТА»

«Кожны колас на вагу золата», — так назваў Саюз вясковай моладзі акцыю дапамогі старэйшым і хворым людзям у жнівах. У гэтым годзе ў акцыі прыняло ўдзел каля паўмільёна моладзі, гэта значыць значна больш, чымсьці ў мінулым годзе. Найбольш паспяхова акцыю праведзена ў ваяводствах: Кялецкім, Познанскім і Лодзінскім.

### ЦЭНЫ

Ад 14 верасня павышана цэны алкагольных напіткаў: спірту і водкі — у сярэднім на 15 працэнтаў, віна — на 10 працэнтаў і шампанскіх вінаў — на 15 працэнтаў. Яснае піва каштуе зараз 3 злотых, поўнае піва 3,60 зл.

### ЭКСТЭНСІЎНАСЦЬ

З аналізу праведзенага нацыянальным польскім банкам вынікае, што надалей гаспадаруем экстэнсіўна, пабольшваючы прадукцыю дарогаю павелічэння колькасці рабочых — замест дарогаю ўзросту прадуктыўнасці працы. Прынятыя ў плане паказальнікі не выконваюцца, а гадавы фонд зарплаты расходуецца хутчэй, чымсьці ўзрастае прадукцыя.

(п)

### СВЯТА ПЛЁНУ

У апошнюю нядзелю ў 10-ці паветах Беластоцкага ваяводства адбыліся дажынкавыя ўрачыстасці. Ва ўсіх гэтых паветах наладжана з гэтай нагоды сельскагаспадарчыя выстаўкі, якія адлюстроўвалі дасягненні сялян Беласточчыны на працягу 25 год народнай улады.

Сяляне Гайнаўскага павета сабраліся на лясной паляне пад Гайнаўкай. Дажынкавыя ўрачыстасці адкрыў пасол у Сейм Міхаіл Адамец. Затым старшыня гуртка вясковых гаспадынь у Трасцянцы Анастазія Сцепанюк супольна з перадавым гаспадаром з вёскі Ягаднік Уладзімірам Куптэлям уручылі гаспадару дажынак, I сакратару Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Аляксею Лазоўскаму бохан хлеба з сёлеташняга плёну. Хлеб гэты быў упрыгожаны надпісам «25 год ПНР». У Гайнаўскім свяце плёну прыняў удзел народны ансамбль «Зялёныя Курпі», які выступіў з прыгожай дажынкавай пастаноўкай.

У дажынкавых урачыстасцях, якія адбыліся ў Моньках, прыняў удзел I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, А. Лашэвіч.

### МІТЫНГ У ПРОСТКАХ

У Простках (Граеўскі павет), адбыўся антываенны мітынг. Наладжана яго ў сувязі з адзначэннем 30 гадавіны гітлераўскага нашэсця на Польшчу. Просткі да вайны знаходзіліся на прускім боку граніцы. У першых днях верасня 1939 г. адбыўся там адзін з важнейшых баёў у вераснёвай кампаніі. Кавалерысты сувальскай і падляшскай брыгад кавалерыі ўварваліся на тыл ворага і нанеслі яму вялікія затраты.

У час мітынгу выступіў старшыня Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа ў Беластоку, пасол у Сейм, Станіслаў Юхніцкі. Аб падзеях, якія разыграліся 30 год таму назад у Простках, расказаў іх удзельнік, маёр запаса Грацыян Фіялкоўскі.

### ДЗЕНЬ ЧЫГУНАЧНІКА

Разам з чыгуначнікамі ўсёй краіны сваё свята таксама ўрачыста адзначалі чыгуначнікі Беластоцкага ваяводства. Сёлеташняе свята беластоцкіх чыгуначнікаў саўпадае з 25 гадавінай іх службы для айчыны. За гэты час адбудавалі яны на Беласточчыне 1500 кіламетраў чыгункі, 63 масты, многа вакзалаў і шмат іншых аб'ектаў.

### ГОСЦІ З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

На Беласточчыне пабывалі прадстаўнікі лясной службы Гродзенскай вобласці. Дэлегацыю ўзначальваў дырэктар Абласнога праўлення лясоў у Гродне Дзімітр Семянюк. Гродзенскія леснікі пабывалі ў Белавежы, Аўгустове і Гелчыне пад Ломжай.

### З'ЕЗД ЗМВ

14 верасня адбыўся ў Бельску пазятовы з'езд прадстаўнікоў Саюза вясковай моладзі. У з'ездзе прыняло ўдзел 65 дэлегатаў. Ацанілі яны дагэтуляшнюю працу сваёй арганізацыі і выбралі новыя павятовыя ўлады.

(вр)




**Niedziela, 21. IX.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: „Konserwacja pasz". 9.40 „Przypominamy, radzimy". 10.00 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów. 10.40 „Stawka większa niż życie" — film TVP. 11.40 Dziennik. 12.00 Sprawozdanie z finału drużynowych Mistrzostw Świata na żużlu (Rybnik). 13.50 „Przemiany". 14.20 Dla młodych widzów: „Idziemy za słońcem" (Kijów). 14.55 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce (Ateny). 17.15 „Warszawska Jesień 1969". 17.45 „Klub Sześciu Kontynentów". 18.25 PKF. 18.55 „Pomnik na Majdanku" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 „Szkoda lata" — program estradowy w wyk. Zespołu „Kanon-Rytm" i „Dziwne rzeczy" oraz solistów. 20.40 „Pamiętnik pani Hanki" — film fab. pol. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów. Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 22. IX.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.50 „Sztuka Dagestanu" — film dokument. radz. 18.15 „Sylwetki X Muzy" — Barbara Horawianka. 18.40 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 Teatr TV: J. W. Goethe — „Ifigenia w Taurydzie". 21.40 „Życie w metalu" — rep. film. 22.10 Dziennik. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów.

**Wtorek, 23. IX.**

8.35 „Klęski i nadzieje" — film fab. NRD cz. II. 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Z. Skowroński „Dekret". 10.30 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" — Matka. 11.25 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 15.00 Przysposobienie Rolnicze: „Parowanie i kiszenie ziemniaków". 13.15 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.30 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.35 Dziennik. 16.45 „Pod strzechami Żerawna" — film bułg. 17.00 „Koncert na dwa fortepiany" I. Strawińskiego (transmisja z sali PWSM w Warszawie w ramach XIII Międzynarodowego Festiwalu Muzyki Współczesnej „Warszawska Jesień 1969". 17.30 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Klęski i nadzieje" — film fab. NRD cz. II. 21.20 „Marynarze słodkich wód". 21.45 Dziennik. 22.00 „Wymiar jazzu" — balet do muzyki A. Kurylewicza. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów.

**Środa, 24. IX.**

8.15 „Czerwone berety" — film fab. pol. 9.50 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Zjawiska świetlne". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Czym są metale". 11.25 Przerwa. 15.15 Program dnia. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 i 23.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.30 „Lenin na Capri" („Śladami Lenina") (Moskwa). 17.00 Dziennik. 17.10 Dla młodych widzów: „Latający Holender". 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 Program filmowy. 18.35 „Sztuka liczenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Giełda piosenki". 20.40 „Światowid". 21.10 PKF. 21.20 Studio 63: „Jeszcze tamten Wrzesień". 22.10 Dziennik. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów.

**Czwartek, 25. IX.**

8.15 Matematyka w szkole: „Iloczyn skalarny" cz. II. 8.45 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — Guy de Maupassante „Naszyjnik". 12.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.55 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 „Przegląd muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.05 Targi Krajowe — Jesień 69. 20.40 Teatr Sensacji: „Niebezpieczne ścieżki" — widowisko wg książki M. Reniaka. 21.40 „Refleksje". 22.10 Dziennik. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów.

**Piątek, 26. IX.**

10.00 „Spotkanie ze szpiegiem" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Malarstwo" cz. I. 12.25 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.15 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.30 „Polowanie i ochrona przyrody" (Moskwa). 17.00 Dziennik. 17.10 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.25 TV Kurier Mazowiecki. 17.40 „Nie tylko dla pań". 18.00 „Skąd my się znamy" — program satyryczny. 18.30 „Marynarze" — film („Szkice z poligonu"). 18.45 „Za kierownicą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Turyści i towary". 20.40 Teatr TV: Z. Stolarek — „Znajomi spod Perpingon". 21.50 „Lektury współczesne". 22.00 Dziennik. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów.

**Sobota, 27. IX.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Afryka". 10.25 „Hamlet" — film fab. radz. 12.50 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.05 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru okopowych". 15.40 Program tygodnia. 16.00 Program sportowy. 16.35 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „NO TO CO na przedmieściu" — program rozrywkowy. 21.00 Dziennik. 21.20 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów. 21.35 Kino Interesujących Filmów: „Hamlet" — film fab. radz.




**Piątek, 19 września**

8.00 Nowiny. 8.15 „Wesołe miasteczko". 8.45 TV spektakl muzyczny. 14.55 Program dnia. 15.00 „Nowiny". 1515 „W jednym szeregu". 15.45 „Panorama nowin". 16.10 Koncert chóru Szyrmy. 16.55 Komentarz dnia. 17.00 W. Lenin. Kronika życia i działalności". „Śmierć nad świtem". Film fab. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 Dni kultury NRD. 20.15 Puchar świata w siatkówce. Transmisja z NRD. 22.00 Nowiny.

**Sobota, 20 września**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 Sprawozdanie sportowe. 9.00 Przegląd międzynarodowy. 9.20 „Szkatułka muzyczna". 9.30 „Człowiek i las". 10.00 Dni kultury NRD. 10.30 „Zdrowie". 11.00 Teatr młodego widza. 12.00 Almanach szachowy. 12.30 „TV atlas narodów ZSRR". Mordowia. 13.00 Teatr literacki, 13.45 „Tallin-67". Koncert. 14.10 Komentarz dnia. 14.15 TV barwna. 16.15 „Prezydent na wygnaniu". Film TV. 18.00 „Przy płomyku". 19.15 „Świat socjalizmu". 19.45 Przegląd estradowy. 20.30 Puchar świata w siatkówce. 22.00 Nowiny.

**Niedziela, 21 września**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Białe i czarne". 8.55 Leonid Kogan. 9.30 Koncert dla dzieci. 10.00 Dni kultury NRD. 11.00 „Godzina wiejska". 12.00 TV barwna. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 „Krup i Krauze". TV film fab. I seria. 16.00 Komentarz dnia. 16.10 Koncert życzeń. 16.50 Almanach TV. 17.40 Film fab. 19.00 „Siedem dni". 19.45 TV barwna. 21.15 Mistrzostwa świata w podnoszeniu ciężarów. 21.25 Tydzień sportowy. 21.40 Nowiny.

**Паўставалі яны і паўстаюць пастаянна. Прысвячаюцца розным здарэнням штодзённага жыцця сваёй мясцовасці, а таксама вялікім падзеям агульнакраёвым. Выказваюць радасць, часта густа крытыкуюць адмоўныя з'явы жыцця. Паўстаюць калектыўна, хоць галоўным аўтарам, які надае ім канчатковы вобраз, з'яўляецца Ніна Мушынская.**

**Ніжэй дадзеная падборка гарадоцкіх частушак прадстаўляе частушкі з розных перыядаў. Спяваць іх можна лёгка на любую частушачную мелодыю.**




### ПРЫПАМІНЫ

Вось цяпер жыццё настала,
Быццам ворагам на злосць.
Маладым ускрозь дарога,
Ды й старым пашана ёсць.

Бабы нашы дык аджылі,
Не хочуць кудзелі прасць,
Лён як толькі збяруць з поля,
Ды й хутчэй нясуць мяняць.

Там тавараў вельмі выбар,
Розных колераў, сартоў.
Хваціць дочкам на спадніцы,
Нагавіц для мужыкоў.

Якась раз у сваёй святліцы
Завялі мы размову:
Раўнялі жыццё калішне
З тым, як мы жывем цяпер.

Прыпомнілі мы сабе,
Як за бацюшкі цара,
На вёсцы была толькі
Чобатаў адна пара.

Вось к прыкладу скажам вам;
Грыбавец шоў у Беласток —
Нёс чобаты на плячах,
Павесіўшы на калок.

А дзяўчаты на гулянне
Хадзілі ўсе басяком.
Так жылося ў панскіх часах
Усім нашым беднякам.

Расспяваліся мы з табою,
А пара ўжо канчаць,
Бо артысты з Белавежы
Сабе раўцца ўжо спяваць.



«Гарадок стары гадамі, сеў, бы бусел, над вадой...» Фота А. Казёл.

### СВАТАННЕ

Не далёка ад граніцы,
Над Супраслю ракой,
Гарадок стары гадамі,
Сеў, бы бусел, над вадой.

То не горад і не вёска,
Проста так, як вам сказаць —
Жывуць людзі, бульбу вараць,
Так гады ім і ляцяць.

Гарадок традыцыі мае
І дзяўчат прыгожых шмат.
Прыжэняць любога хлопца,
Не дажджэцца і каляд.

Вось з'явіўся хлопец з места
Прыгожы ў капелюшы.
— Да мяне міргае вокам.
— Да мяне, ты лепш не лжы!

— Ах, ты пурхватка малая,
Ты заўсёды ўсадзіш нос
І папсуеш мае справы,
Дык на табе, дулю вось!

— А ты, белая курноска,
Лепш языком не пляшчы!
Ужо нічога не паможа —
Да мяне прышлі сваты!

— Да мяне, а вось пабачыш,
Бацька ў пасаг карову дасць,
А як гэта не паможа,
Дык падкіне тысяч пяць.

— Нашто спрэчкі, рэч вядома,
Мяне палюбіць, няма слоў,
А як расцяпа ён такая
Няхай бярэ ў жонкі кароў.

— Мяне!
— мяне!
— мяне!
— мяне! — спрачаліся дзяўчаты
Тым часам хлопец ужо пайшоў
Да іншае ў сваты.

— Да іншае?
— Да іншае?
Дык гэта ж быць не можа!
А мы з табою, Божа мой!
Хто нам цяпер паможа?

Адгэтуль вывад вось такі:
Хай кожны гэта знае,
Дзе за чубы бяруцца двох,
Там трэці карыстае.



### РАЗВІТАЛЬНАЯ

Вось прыехаў з бабай дзед
У дзень таргова ў Гарадок,
Каб прадаць свае надвыжкі,
Ды й змалоць збожжа мяшок.

Баба, узяўшы вядро масла,
Кош яец і сыраў пяць,
Вылезла каля гасподы,
Каб хутчэй тут усё прадаць.

Абступілі спекулянткі,
Ліжуць, нюхаюць тавар,
З каша яйкі выбіраюць,
У злосці бабе гарыць твар.

— Не чапайце, пайшлі к чорту,
Не для вас усё прывязла.
Сваіх кундаў я тут маю!
Вось і Броня падыйшла.

За ёй Стася сталярыха,
Потым маці сакратара.
Узялі масла, сыры, яйкі
Баба мігам прадала.

Дзед заняў чаргу на спэндзе,
Прывёз здаці вепрука.
— Пэўна пойдзе ў першу клясу, —
Кажа ён да Петрука.

За дваццаць пяць год мірнай працы
Пад уладай рабочых і сялян
Жыць у вёсцы людзям добра,
Ёсць прадаць і здаць на план.

За чвэрць веку усё змянілась,
Штогод больш родзіць зямля,
Свінні растуць як на дрожджах,
Маем усё больш малака.

Змянілась усё як ў сне ці ў марах,
Пайшла мода, не паняць:
Хлопец гэта, ці дзяўчына?
На плячах косы ляжаць.

Поспехаў жадаем сёння,
Шчасця ўсім жадаем шмат,
Каб улада намі ганарылась,
Без вайны жыць нам «сто лят!»



«То не горад і не вёска...» Фота В. Рудчык

### ВЕЧАРЫНКА
(па ўзору Я. Купалы)

Вечарынка сёння будзе
Ў гарадоцкім сельскім клубе.
Прыдуць Сцёпкі, Пецькі, Васі,
Прыйдуць Зосі, Стасі, Касі.
І гармонік грае, грае...

Прышлі з поля, з гаспадаркі,
Клуб запоўнішы да краю.
Прышлі з фабрыкі бракаркі,
Гэзсаўскія гандляркі.
А гармонік грае, грае...



Ходам ходзяць гаспадыні
Маладыя і старыя.
Зіна шэпча штось Мальвіне,
А Мальвіна шэпча Зіне.
А гармонік грае, грае...

Захапіўшы ў першай пары
Янка Зоську, Юрка Раю
Даюць дыхту, даюць жару,
Модны танцы, твіста шпарацъ.
А гармонік грае, грае...

За сталом ідзе бяседа,
Аб жыцці і ўраджаі,
П'е суседка да суседа
Аб наступным годзе раяць.
А гармонік грае, грае...

Весяліся, ганарыся,
Восень добра абрадзіла,
Скварка плывае у місе,
Жыць нам добра, жыць нам міла!
І гармонік грае, грае...



«Бабы нашы дык аджылі, не хочуць кудзелі прасць...» Другая злева Ніна Мушынская. Фота Цаф — Сянько.




Як вядома, гісторыя беларускай літаратурнай мовы да гэтага часу яшчэ не напісана. У дарэвалюцыйны перыяд было некалькі тэорый паходжання і спецыфікі развіцця беларускай мовы. Адны лічылі яе дыялектам вялікарускай мовы, другія — мешанінай славянскіх і неславянскіх моў, трэція — без канкрэтна-гістарычных доследаў — прызнавалі беларускай мове самастойнасць з уласцівымі ёй гукавымі і граматычнымі асаблівасцямі. Колькасць гэтых тэорый можна тлумачыць адсутнасцю навуковага пункту гледжання на ўзнікненне і развіццё беларускай мовы. У выніку вывучэння змен гукаў, марфем, слоў, сказаў на розных гістарычных этапах, а таксама знешне граматычна-палітычных фактараў вызначыўся новы шлях вывучэння моўнай спадчыны Беларусі.

Аднак лінгвістычная літаратура на гэту тэму застаецца ўсё яшчэ небагатай. «Не даследвана, — піша У. В. Анічэнка, — з лінгвістычнага пункту гледжання важнейшыя пісьмовыя помнікі, даўно вядомыя на тэрыторыі Беларусі... не складзены яшчэ слоўнікі старабеларускай... пісьменнасці, а таксама дыялектныя і этымалагічныя слоўнікі...» (стар. 5).

## Моўная спадчына Беларусі і Украіны

XIV—XVII ст. ст. гэта часы, калі Беларусь разам з Украінай знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай. З-за тых гістарычных узаемаадносін беларускага і ўкраінскага народаў узнікла многа пісьмова-моўных сувязей. Варта падкрэсліць, што гэтыя стагоддзі ў нацыянальным жыцці Беларусі ў дакастрычніцкім перыядзе былі найбольш важныя — тады асабліва выразна адбываліся якасныя змены беларускага пісьмова-моўнага развіцця.

У працы У. В. Анічэнка займаецца гэтым надзвычай цікавым перыядам і яго моўнымі праблемамі. «Кніга змяшчае новыя звесткі аб знешніх і ўнутраных фактарах, якія абумовілі ўзнікненне агульнадзяржаўна-пісьмовай мовы на Беларусі і Украіне, аб шляхах пранікнення беларусізмаў у староўкраінскую пісьменнасць і ўкраінізмаў у тагачасную беларускую... а таксама ступені насычанасці... кніжнаславянізмамі і паланізмамі. Адначасова ў кнізе зроблена спроба ўдакладніць і дапоўніць **прынцыпы размежавання беларускіх і ўкраінскіх помнікаў** як крыніц для вывучэння гісторыі літаратурнай мовы, гістарычнай граматыкі і гістарычнай дыялекталогіі, а таксама агульнанацыянальнай культуры» (стр. 5).

У VI і апошнім раздзеле «Паланізмы ў беларускай і ўкраінскай пісьменнасці XVI—XVIII ст.ст.» пасля насвятлення гістарычнага фону У. В. Анічэнка шматбакова аналізуе такія моўныя помнікі як: «Перасопніцкае евангелле» і «Евангелле» ў перакладзе Цяпінскага (крыніцай гэтага перакладу была польская «Біблія» выдадзеная Будным у Нясвіжы — 1572 г.); «Псалтыр»; рэлігійна-павучальныя творы «Лякарства на аняслены розум чалавечы» і «Кінавіён»; творы гістарычнага тэксту «Хронікі»; палемічна-публіцыстычныя творы «Апакрысіс» Філалета, «Палінодзій» і «Лексікон».

З вывадамі У. В. Анічэнка, свежымі і арыгінальнымі, хоць спадзяванымі, варта чытачу зазнаёміцца. А мовавед вышэй упамянута кніга павінна асабліва зацікавіць, паколькі ў ёй, апрача навуковага праанализаванага матэрыялу, падана багата мовазнаўчая бібліяграфія, дзе зарэгістраваны рукапісныя і стАрадрукаваныя моўныя помнікі Беларусі і Украіны, уведзены ўпершыню ў навуковы ўжытак.

**І. Чыквін**

У. В. Анічэнка, Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі, А. Н. БССР, Інстытут Мовазнаўства імя Я. Коласа, Мінск 1969, стар. 294.

Людзі нашага часу

# Людзі з добрым сэрцам

Дзесяць год ужо працуюць грамадскія апекуны. Жывуць яны сярод нас і разам з намі. Гэта ўражлівыя людзі на чужую бяду, гора, на людскія патрэбы.

Беластоцкі павет належыць да лепшых, перадавых у ваяводстве па дзейнасці грамадскіх апекуноў. У гэтым павеце шырока разгарнулася іх дзейнасць. Няма гарадоў і вёсак, дзе б гэтыя людзі не праводзілі сваёй карыснай дзейнасці, дзе б яны не працавалі для іншых.

Наша рэдакцыя, хочучы адзначыць дзесяцігоддзе працы грамадскіх апекуноў і адначасова прадставіць ролю іх у жыцці, называе лепшых апекуноў Беластоцкага павета.



Аляксандр Банерт.



Язэп Казберук.

Вітальд Мінько — грамадскі апякун у вёсцы Пратасы ад 1964 года. Уладзіў людзям многа спраў. Пастаянна апякуецца старой Марыяй Каральчук, удавой, якая не мае бліжэйшай сям'і. Мабілізуе людзей для дапамогі жанчыне. Апякун часта заглядае ў хаты, дзе дзеці кепска адносяцца да сваіх бацькоў, павучае і страшыць, калі трэба. Праца яго прыносіць добры плён. Вітальд Мінько член партыі.

Многа добрых учынкаў зрабіў Браніслаў Кандрацкі з вёскі Кухароўка. Ён пастаянна апякуецца сіратамі Янкам і Стасем Тэафілевічамі, якіх бацькі памерлі ў 1957 годзе. Змабілізаваў усю вёску для дапамогі сіратам. Памагаюць жыхары і школьнікі, а таксама сельскагаспадарчы гукток ва ўборцы збожжа і выкопках. Апякун пастараўся ўладзіць сіратам бясплатныя абеды ў гарадскім дзетсадзе ў Заблудаве. Стася накіраваў у завадовую школу ў Беластоку.

Станіслава Палікарп з Заблудава вельмі энергічна выступае ў абароне ўсіх патрабуючых. Сама Грамадская рада ў Заблудаве прызнаецца, што не праміне нікога і цвёрда дамагаецца дапамогі таксама ад ГРН. Арганізуе яна гарцэраў, супольна з якімі выязджае ў дамы дзіцяці, дзе ўручаюць дзецям падарункі купленыя за ўласныя ашчаднасці. Чатыры жанчыны, дзякуючы апекуну, знаходзяцца зараз пад пастаяннай грамадскай апекай. Грамадскім апекуном Станіслава Палікарп з'яўляецца ад 1961 года. Член Лігі Жанчын.

Данута Нявінская з Заблудава выкваліфікаваная медсястра. Свае ўмеласці аддае яна на бясплатную дапамогу хворым. Робіць уколы, наведвае хворых.

Аляксанд Банерт з Гарадка свой час і сілы аддае таксама людзям. Кожны аўторак збірае ўсіх хворых, пенсіянераў, старых у Доме культуры, дзе праводзіць размовы, слухае жаляў і запісвае скаргі.

Пастаянных падапечных мае 7 асоб. Трымае ён сувязь са ЗБоВіД-ам у Гарадку. Памагае людзям, якія выходзяць з турмаў і часта не ведаюць куды кінуцца. Мае аграмаднае прызнанне ва ўсім Гарадку.

У Падазяранах дзейнічае Язэп Казберук. Памог арганізаваць пасевы самотнай Мальвіне Тухлінскай. Намовіў сельскагаспадарчы гурток у Вейках, каб зааралі поле Тацяне Гайдучэні, а Магдалене Каленік звезлі і закапалі бульбу. Член партыі.

Праца людзей, якія поўныя добрай волі, атрымлівае прызнанне. Але не заўсёды. Бывае інакш. Язэп Бурса з'яўляецца апекуном у вёсцы Навасёлкі. У свой час гэты апякун накіраваў у суд дзяцей Антося Грыцука на аліменты. Справу выйграў, і дарослыя дзеці прысылаюць зараз бацькам па 200 зл. кожнае. Бацькі задаволены, але дзеці абсыпаюць усімі найгоршымі словамі апекуна. Язэп Бурса член партыі.

Як многа можа і робіць грамадскі апякун у сваёй мясцовасці! Аж дзіву даеш, якіх толькі спраў ён не кранае. Куды толькі не даходзіць. Прыклад Браніслава Задыковіча з вёскі Крыніцкае дае нам поўны вобраз гэтай працы.

Уладзіў Язэпу Зіневічу пастаянную грашовую дапамогу. Луцыі Задыковіч, удаве з сямёра дзяцьмі, выстараўся з Польскага камітэта дапамогі пачкі з ежай і адзежай. Апякуецца сям'ёй Генавефы Люлевіч, якая ўтрымлівае дзесяць асоб сям'і. З польскага камітэта дапамогі прысылаюць ёй пачкі. Адзінокага Паўла Бароўскага ўладзіў у Доме старцаў. Мар'янне Задыковіч, калецы, выстараўся інвалідскі возік. Бараніў колькі ўжо разоў Станіслава Сакалоўскага і сям'ю Рафаловічаў перад іх сынамі. Калі сельскагаспадарчы гурток не хацеў папрацаваць удовам і старым, пайшоў туды і дамогся, што сельскагаспадарчы гурток памог Генавефе Люлевіч, Марыі Люлевіч, Станіславу Задыковічу. Памагаў Міхаліне Закшэўскай перказаць яе гаспадарку ў Фонд зямлі за пенсію. Прымае актыўны ўдзел у школе, дзе гаворыць аб справах грамадскай апекі, аб выхаванні дзяцей у пашане да старэйшых. Піша людзям розныя заявы ва ўсе ўстановы.

(вл)

# Уязджаючы ў Гайнаўку

Склалася думка, што Гайнаўка з'яўляецца вельмі чыстым горадам з добраўпарадкаванымі вуліцамі, а нават і задворкамі. І не без прычыны: так яно ў значнай меры ёсць напраўду. Ды не аб самой Гайнаўцы хачу напісаць пару слоў разважанняў, але аб Дубінах, аб той блізкай вёсцы, якая фактычна зусім злучылася з гайнаўскай вуліцай. І аж дзіва, што існуе яшчэ тут асобная грамадская рада. А можа таму, што існуе яна, Дубіны часамі моцна псуюць добрую апінію аб самой Гайнаўцы, бо хто ж з чужых можа ведаць, што Дубіны — не Гайнаўка?

Як няцяжка здагадацца, гутарка тут аб выглядзе дубінскай вуліцы, прыдворкаў. Праўда, вуліцу перабрукоўваюць, робяць прасцейшай, але хто ж пераканае самых дубінцаў, каб і пры іх хатах не было балота па калені, каб было прыгожа і чыста? Хто? Грамадская рада? Солтыс? Дарэчы зазначыць будзе, што і паблізу грамадскай рады таксама не блішчыць ад парадку, смутнее дошка з невядома калі вывешанымі «паперамі» аб'яваў, прытым паабрываных.

Магчыма, ёсць план на тратуары і іншыя добрыя рэчы. Але, ці ж трэба чакаць, пакуль гэта станецца за год, за два, за пяць? Ці ж гэта абавязак столькі часу таптацца па забагненых адхонах вуліцы з малюнкам прыгожага ў сэрцы? Тым болей, што восень ужо нават і не за лясамі... (ся)

# Два галасы аб семяноўскім клубе

Ад рэдакцыі: Змяшчаем ніжэй дзве карэспандэнцыі аб сітуацыі і дзейнасці клуба гаспадара ў Семяноўцы. Змяшчаючы абедзве розныя апініі гэтым запрашаем людзей семяноўскай ваколіцы да дыскусіі не толькі аб тым, якая з дзвюх карэспандэнцый з'яўляецца бліжэй праўды. Запрашаем да дыскусіі таксама і аб тым, што зроблена або павінна быць зроблена для развіцця культурнага жыцця ў роднай ваколіцы, вёсцы.

### ТРЭБА БЫЛО ДОЎГА ЧАКАЦЬ

Клуб гаспадара ў Семяноўцы (Гайнаўскі павет) адкрыта ўвесну гэтага года. Займае ён адзін невялічкі пакой, які нараўкаўская ГС забяспечыла новым прылаўкам, кафлеваю печкаю, столікамі, табурэткамі, шашкамі і г.д. У клубе можна купіць напіткі, парашкі да мыцця бялізны, цукеркі, пернікі, вафлікі, папяросы, плоскія батарэйкі да электрычных ліхтарыкаў. У клубе можна пачытаць свежыя газеты, «Ніву», паслухаць радыёперадачу.

Прыемна тут пабываць увечары. На сценах актуальныя насценгазеты, фотавітрына аб Беларусі.

Свой вольны час ахвотна праводзіць тут перш за ўсё моладзь. Ды і старэйшыя прыходзяць сюды пагутарыць ці падыскутаваць. Заходзяць сюды гаспадыні або маці. Кіраўнік клуба, Вера Бірыцкая, задаволіць можа іх малых дзяцей цацкамі, лялькамі.

Клуб гаспадара ў Семяноўцы — гэта мерапрыемства, на якое трэба было доўга чакаць, але ўсё ж варта было чакаць. Клуб становіцца тут другім пасля школы культурным цэнтрам.

**Я. Цялушэцкі**

### СЕМЯНОЎСКІ КЛУБ

У Семяноўцы існуе клуб, элегантна названы клубам гаспадара. Гэта ініцыятыва навакольнага актыву і нараўкаўскага ГС-у, які дастаўляе тавары ў клубны буфет. Дапамагае клубу, наколькі можа, Гайнаўскі аддзел Беларускага таварыства. Мясцовыя ўлады, якія плацяць за памяшканне, нанятае клубу, таксама выдаюцца задаволенымі. Зрэшты, чаго не быць задаволеным, калі ёсць культурна - асветная пляцоўка ў вёсцы.

На жаль, сітуацыя далёка не радасная. Клуб знаходзіцца ў былым памяшканні гандлёвай крамы, у якой прадаваліся соль, цукар, селядцы, запалкі, — але таксама і віно, часамі піва, а найчасцей хіба гарэлка. Відаць, па старой прызычцы заходзяць сюды і тыя хлопцы, якім адно пабуяніць хочацца. Гэта не папрок у адрас клуба, ён патрэбен. Гэта просьба да шануючых сябе семяноўскіх людзей, каб недапусціць да пераўтварэння клуба ў яшчэ адну «забягайлаўку», дзе патайком выпіваецца ліманад з гарэлкаю, пасля чаго і мора па калені. Асабліва прыкра слухаць расказаў аб тым, як падпіўшыя (тайком) маладзікі дакучаюць старой жанчыне, уласніцы хаты, дзе той клуб.

Але ўрэшце і не ў тым справа. Клуб у прыватнай хаце, няхай сабе і немалой, не вырашае праблемы культурнага адпачынку ў Семяноўцы. Патрэбны асобны будынак, большы будынак, лепшы. І такі будынак можна мець, ён амаль ёсць. Гэта вялікая святліца пакрай вёскі, сапраўды вялікая, ды запушчаная, неадрамантаваная. Не выглядае яна на руіну, рамонт здаецца магчымым і сэнсоўным. Вядома, справа ў грошах. Ды, наколькі памятаю, цэлыя годы гаворыцца аб рамонце святліцы, аб пэўных фармальных цяжкасцях, звязаных з тым — і нічога з таго. Аж дзіўна глядзець: стаіць сабе зялізная будыніна, а тым часам клуб гаспадара ціснецца ў нейкай хаціне, дзе гаспадыня мала ні плача, што досыць мае клуба таго, заробкаў тых ад яго і г.д.

(ся)

Пачатак на стар. 1




ламанай рускай мове спытаў: — Няўжо рускі?..

— Рускі, савецкі... капітан! — адказаў за мяне Юзэф. — Што ж, дзядуля, вайюйце.

Стары бадзёра ўстаў, выставіў грудзі:

— Слухам, пане плютоновы!

Мы падняліся па прыступках, увайшлі ў пад'езд і глянулі на вуліцу. Яна была завалена цэглай і каменнем. На самай высокай грудзе трывала стаяў на ножках абедзенны стол, закінуты туды выбухам. З-за бліжэйшых руін часта біў мінамёт. Праз плошчу бегла з чамаданам, трымаючы за руку хлопчыка гадоў сямі, высокая жанчына ў мужчынскім даўжэзным паліто. За ёй, згінаючыся пад цяжарам куфэрка, спяшалася старая.

Разглядаючы знявечаныя дамы, я думаў: «Як тут знайсці Дзмітрыя?»

Трэба было б перабягаць ад укрыцця да ўкрыцця, але рухацца хутка я не мог, доўгае блуканне па падвалах і траншэях ушчэнт змучыла мяне.

— Кладзіся! — крыкнуў я, пачуўшы хутка нарастаючы свіст міны.

Мы ўпалі. Вострыя каменні ўпіліся мне ў далоні, у калені, ў шчаку. Над самым вухам правішчэлі асколкі, дыхнула гарачая хваля, і па спіне забарабаніў шчэбень. Пранесла!

Калі мы перасеклі вуліцу і па траншэі зноў юркнулі ў падвал, нам сустрэліся паўстанцы. Яны расказалі, што мы знаходзімся пад домам, які напярэдадні занялі фашысты. Выбіць фашыстаў пакуль не ўдалося, не было ні гранат, ні ўзрыўчаткі.

— А раптам іменна на гэты дом упаў Дзмітрый? — уголас падумаў я.

— Наўрад ці! — сказаў Юзэф. — Тут верх знесла выбухам...

Зноў падвалы і пераходы. Мы набліжаліся да самага краю абароны аднаго з участкаў маёра Сенка. Усё часцей пападаліся насустрач невялікія групы паўстанцаў. Некаторыя пазнавалі ў мне савецкага чалавека. Пры святле ліхтарыка я бачыў на іх тварах радасную цікаўнасць, але ў каго б мы не пыталіся, ніхто не ведаў пра Сцянько.

— Дзе ж ён? Дзе?!

### БЫВАЙ, СЯБАР!

Было ўжо каля шасці гадзін раніцы. Мы цяпер блукалі ў раёне вуліцы Сянной. Кожная новая мінута ўносіла з сабой часцінку надзеі. Я зусім ужо страціў надзею ўбачыць Дзмітрыя жывым або мёртвым, як раптам нас дагналі два байцы з аддзялення Юзэфа.

— Знайшлі!

За час вайны я прывык да многага, але тое, што ўбачыў, калі забраўся на пяты паверх, прымусіла здрыгануцца: Дзмітрый вісеў над вуліцай, ногі трапілі ў перакручаныя пруты балконнай агарожы. Цела было ненатуральна скручана і абматана стропамі.

Я перарэзаў нажом стропы, а Юзэф і Хажынскі ўцягнулі Дзмітрыя ў дом. Пульс не адчуваўся, але калі расшпілілі куртку і я паклаў руку на грудзі, то ўсклікнуў ад радасці: сэрца білася, хаця і вельмі слаба. Мой сябар быў жывы!

Мы прынеслі Дзмітрыя ў падвал, дзе знаходзіўся камандны пункт маёра Сенка, і там паклалі зручней. Дапамагалі нам усе, хто быў тут. Адзін Сенк, расклаўшы на стале карту Польшчы, сядзеў у кутку сканцэнтраваны. Зрэдку, між іншым, пагладаў на нас.

Маладзенькая медсястра перавязала Дзмітрыя і падышла да маёра. Калі зняла з яго паліто і пінжак і закасала рукаў акрываўленай кашулі, я ўстрывожыўся: Сенк таксама паранен. Ён усміхнуўся ў адказ на мой позірк.

— Глупства, — сказаў, аблізваючы сухія губы. — Дрэнна іншае, няма ў нас карты горада.

Я выцягнуў з кішэні сваю карту.

— Вазьміце.

— Вось дзякуй! Цяпер мы ўсё будзем наносіць падрабязна, а не наўздагад...

Пазней, адзначаючы на карце месцы, дзе змагаліся атрады Арміі Людовай, Сенк расказваў мне:

— Гэтыя пункты мы захапілі ў першы ж дзень паўстання. Нам удалося нават расшырыць занятую тэрыторыю, але потым прыйшлося вярнуцца на зыходныя пазіцыі, ды і тыя не ўсюды ўтрымалі... Гітлераўцы прад'явілі нам ультыматум: усяму насельніцтву Варшавы з белымі флагамі выйсці з горада ў заходнім напрамку. Абяцалі добра абысціся. Той-сёй паверыў ім...

Сенк ссунуў бровы, вочы яго звузіліся.

Вы, рускія, ведаеце, што такое нянавісць. Мы таксама ведаем... Усіх нашых, хто выйшаў з горада, фашысты кінулі ў канцэнтрацыйны лагер. Ты быў у падвалах? Нават гэта не так страшна, тут чалавек можа памерці, горшага не будзе... А там, у лагерах... Але хопіць! — перапыніў ён сябе. Значыцца, абстаноўка такая... Паводле звестак разведкі, у раёне Варшавы ця-





# НЕ ТОЛЬКІ Ў ВУЧОБЕ

Беларуская падставовая школа ў Бельску (№ 3) не толькі мае добрыя вынікі ў навучанні, яна займае таксама перадавое месца і ў спорце. Школьны спартыўны гурток (СКС), які дзейнічае пры школе, дабіўся шмат дасягненняў. Яго члены займалі не раз першыя месцы ў розных спартыўных спаборніцтвах і здабылі не адзін дыплом ці кубак. Добрыя вынікі здабываюцца ў штодзённай працы, праз сістэматычныя трэніроўкі. Аб гэтай праўдзе тут добра ведаюць і таму спартыўнай падрыхтоўцы адводзіцца належная ўвага. Наш фотарэпартаж і паказвае спартыўныя заняткі СКС беларускай школы ў Бельску.

Фота Цаф — Сянько







пер пяць гітлераўскіх дывізій. Тры з гэтых дывізій у самім горадзе, і камандуе імі нейкі обергрупенфюрэр СС... Учора Юзэф прынёс мне дакументы забітага танкіста з дывізіі «Герман Герынг». Ці ўся дывізія тут, мы яшчэ не ведаем. Ёсць асобныя сапёрныя батальёны, ёсць кулямётныя роты. Ну, і, вядома, усялякія атрады СС і гестапа... Зразумела, што гэтыя шакалы самі не ведаюць, за іншымі следам ідуць, але ўлічваць іх трэба, небяспечныя...

Сенк накіраваў мяне ў падраздзяленне Юзэфа. Памятаю, калі я з'явіўся на яго барыкадзе, гітлераўцы якраз спрабавалі яе захапіць. Яны пайшлі ў новую атаку, шостую за апошнія чатыры гадзіны. Паўстанцы ўмомант выбраліся з укрыццяў, дзе хаваліся ў час гарматнага і мінамётнага абстрэлу. Заняўшы свае месцы, адкрылі беглы агонь. Стралялі з-за разварочанай барыкады, з праломаў і вокан, адусюль. Фашысты адступілі, пакідаючы забітых. Схаваліся за далёкімі паўразбуранымі дамамі.

У паўстанцаў аказалася вельмі мала аўтаматаў. Затое ў іх было іншае — савецкія процітанкавыя ружжы, дастаўленыя самалётамі ў Варшаву.

Раз'юшаныя няўдачай гітлераўцы кінулі на нас танкі. Чатыры «тыгры», адзін за адным, рушылі па вузкай вуліцы. Галоўны біў з гарматы прама па барыкадзе і паліваў яе кулямётным агнём. Астатнія абстрэльвалі дамы.

Паўстанцы не пахіснуліся, ударылі па «тыграх» з процітанкавых ружжаў. У галоўную машыну з-за барыкады паляцела самаробная граната. Баец, які кінуў яе, быў моцна кантужан, але справу зрабіў: танк з разарванай гусеніцай пакружыўся на месцы і замёр. Тры астатнія павярнулі назад, са страшэнным грукатам пераважваючыся праз кучы цэглы і каменняў...

Вечарам я паспяшаўся да Дзмітрыя. Ён усё яшчэ ляжаў нерухома за сцяной, у суседнім памяшканні.

— Нам трэба быць разам, — слаба выдыхнуў ён.

— Добра, Дзмітрый!

— Я цяпер для цябе лішні клопат... Але ўсё-такі, калі што здарыцца, то я... — паспрабаваў устаць.

— Ляжы, ляжы... Табе ўжо лягчэй, так?

Дзмітрый хваравіта ўсміхнуўся.

— Не глядзі на мяне так. Я яшчэ...

Выразна памятаю гэтыя словы. Памятаю таксама, як раптам пахіснулася і заслізгацела з-пад маіх ног цэментная падлога... Выбух міны!

Я дрэнна бачыў, дрэнна ўсведамляў, калі апрытомнеў. Адной са сцен як не было. Каля мяне на падлозе, заваленай асколкамі цэглы, ляжаў Дзмітрый. З галавы лілася кроў. Кроў была і на пасінелых губах.

Я дацягнуўся да яго рукой.

— Дзімка! Дзімка!

Ён не адазваўся.

— Бывай, сябар!

(Заканчэнне ў наступным нумары)

## ВЕСТКІ З САКОЛЬШЧЫНЫ

### Дзеці Астроўка

Дзеці ў Астроўку завялі сабе небяспечную гульню перабягаць цераз шашу перад самюсенькім «самаходам». Хваленая рызыка, відаць, замяняе праўдзівыя гульні — тыя традыцыйныя, што ўжо забываюцца, і тыя гарцэрскія, якіх або замала, або ўвогуле няма?..

### Знак: алень

Паміж лясніцкаю вёсачкай Клін і надлясніцтвам Копная Гара ў Крынскай пушчы, недзе пасярэдзіне дарожнай дыстанцыі, шафёры досыць часта расказваюць аб тым, што бачылі перабягаючага аленя, сарну, не гаворачы ўжо пра зайцоў. На ўзлессі час ад часу можна ўбачыць лясную сям'ю, якая з перапалохам уцякае ў глуш.

Згодна з патрабаваннем закона аб ахове прыроды на гэтай клінска-копненскай дыстанцыі неабходна паставіць дарожныя знакі з малюнкам аленя. Такі знак забавязвае шафёраў да павальнейшай і асцярожнай язды для таго, каб пазбегнуць трагічнага аленю (ці сарне) сутыкнення з машынай. Гэтым павінна зацікавіцца перш за ўсё надлясніцтва ў Копнай Гары. Тут будуецца вялікая новая дарога і рух напэўна павялічыцца. (ся)





## З КАЛІНІНГРАДА

Мы ў Калінінградзе ў 31 сярэдняй школе арганізавалі музей, дзе расказваем пра подзвігі воінаў 50-тай арміі (генерала Болдзіна І. В.), якая прымала ўдзел у вызваленні гарадоў: Элку, Аўгустова, Беластока (343 стралковая дывізія) і іншых. На тэрыторыі вашага ваяводства каля вёскі Гарасімавічы салдат нашай арміі Г. Кунавін сваім целам закрыў амбразуру вогненнага пункта ворага. Мы звяртаемся да вас з такой просьбай.

1. Прышліце нам фатаграфіі брацкіх магіл горада Беластока, помніка Кунавіна і фота школы, якая называецца яго імем. Прышліце таксама фатаграфіі брацкіх магіл у іншых мясцовасцях ваяводства, дзе толькі такія магілы ёсць. Калі ведаеце, напішыце лік пахаваных у іх салдат.

2. Памажыце навязаць нам перапіску са школай у вёсцы Герасімавічы.

3. У 1968 годзе з Аўгустова Смірноў А. А. — удзельнік баёў за вызваленне горада, прывёз шкатулку з зямлёй з магілы 1428 салдат, якія вызвалялі Аўгустуў і загінулі там. Было б добра атрымаць такія пасылкі з брацкіх магіл з горада Беластока і іншых мясцовасцей.

Просім вас, пішыце нам, чым можам вам памагчы. Мы можам расказаць школьнікам і моладзі з усяго ваяводства пра подзвігі нашых салдат на польскіх землях, у прыватнасці на землях вашага ваяводства. Нашай моладзі было б вельмі цікава даведацца больш пра вашае ваяводства, горад Беласток і іншыя гарады і мясцовасці.

Пісьмо падпісаў ад імя школы Шусцер І.І.

На яго адрас усе ахвотныя могуць кіраваць свае пісьмы.

Адрас: горад Калінінград 100
вуліца Гайдара 17 кв. 20
Шусцер І. І. (вл)

## З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Дарагая рэдакцыя, прашу, калі можна, надрукаваць у газеце «Ніва» маё пісьмо. Мне хочацца напісаць аб той дружбе, якая злучае нашы народы не толькі па словах радыё і друку, але, менавіта, аб той дружбе паміж нашымі людзьмі, якая злучае сэрцы.

Я прабыла на Беласточчыне 23 дні. Заўсёды і ўсюды я сустракала толькі прыязныя ўсмешкі і гасцінныя словы. Я гаварыла па-руску, а мне адказвалі па-польску, але мы дасканала адзін аднаго разумелі.

А колькі песняў рускіх і польскіх чула я на вашай зямлі! І як прыгожа і сардэчна спяваюць людзі ў вёсцы Старое Беразова, дзе жыве мая сястра Прасковія Мароз. Якія сардэчныя там жывуць людзі!

Мне хочацца ад душы падзякаваць людзям у Гайнаўцы і Старым Беразове, дзе мне давялося правесці большасць сваёй пабыўкі ў ПНР. Я была ў Старым Беразове ў гасцях у сястры.

Прашу вас, надрукуйце ў газеце «Ніва» тэкст беларускай народнай песні «Касіў Ясь канюшыну», якую вельмі палюбілі мае сябры:

Касіў Ясь канюшыну,
прыглядаўся на дзяўчыну.
А дзяўчына жыта жала
ды на Яся паглядала.
Ці ты Ясь,
Ці ты не,
Спадабаўся ты мне.
Кінуў Яська касіць,
стаў ён мамку прасіць:
«Люба мамка мая,
ажані ты мяне.
Бо ўсе хлопцы
жонак маюць,
іх цалуюць, абнімаюць.
Каб я жоначку меў,
я б не піў і не еў».
«Дык бяры ты Станіславу,
каб сядзела на ўсю лаву».
«Станіславы не хачу,
бо на лаву не ўсаджу».
«Дык бяры тады Яніну,
працавітую дзяўчыну».

Жыву я ў г/п Карэлічы па вуліцы Гастэла 10, Гродзенскай вобласці, а прозвішча маё Вілімовіч Валянціна Іларыёнаўна.




# ЯК ПЛАВАЕ РЫБА



**Вялікі кіт, выкінуты праз мора ля ўзбярэжжа ГФР.**

У параўнанні з самалётамі птушкі даўно ўжо выглядаюць «ціхаходнымі» істотамі. У моры, наадварот, рэкорды хуткасці ўсё яшчэ трымаюць прадстаўнікі жывога царства. 100—130 кіламетраў у гадзіну — такія паказчыкі самых хуткіх плыўцоў — рыб «паруснікаў» і некаторых іншых прадстаўнікоў сям'і тунцовых. Такой скорасцю не валодае пакуль ні адзін з падводных апаратаў.

Вакол цела хуткаплаваючых рыб утвараецца так званая вакуумная каверна — своеасаблівы беспаветраны чахол. Каверна ўзнікае пры хуткім руху, і яна ж служыць сродкам павелічэння скорасці: знікае трэнне, рыба рухаецца нібы ў пустаце.

У падводных спрынтэраў асаблівая форма цела. Цікава, што авіяканструктары ў пошуках патрэбнага профілю, крыла, самі таго не падазраючы, скапіравалі сілуэт рыбы. Так, напрыклад, разрэз крыла «ІЛ—18» і абрысаў цела сяўругі амаль супадаюць. Вельмі многа агульнага з разрэзамі крыла маюць сілуэты большасці так званых рыб «вечнага руху», — напрыклад, акул, якім зусім не знаёмы стан спакою (спыняючыся, яны патанаюць). А стрэльчатае крыло «ТУ—104» амаль без змен паўтарае контур хвастравых плаўнікоў меч-рыбы.

Дарэчы, у рыб і іншых нектонных (плаваючых) жывёлін ёсць чатыры зоны, дзе растуць плаўнікі. У падводных лодак таксама чатыры групы элементаў кіравання: рулі, стабілізатары, кілі, рухавікі. Але падобныя па функцыях прыстасаванні намнога больш дасканалыя ў марскіх жывёлін. Для рыб, кітоў, кашалотаў не існуе верха і ніза, яны з лёгкасцю робяць пад вадой складаныя піруэты, г. зн. валодаюць надзвычай высокай манеўранасцю.

Асаблівую ролю пры гэтым адыгрывае хвост — адначасова руль і рухавік. Як устаноўлена, каэфіцыент карыснага дзеяння гэтага «механізма» значна вышэйшы, чым суднавага вінта.

Рыбы, калі не лічыць яе плавальнага пузыра, — несціскаемы «апарат». Іменна аб такіх апаратах мараць канструктары, абдумваючы новыя варыянты падводных лабараторый і сродкаў руху на вялікіх глыбінях. Калі запоўніць падводную лодку вадой, корпус яе набывае практычна неабмежаваную трываласць. Рыбы не баяцца глыбіні з іншай прычыны: у іх арганізме няма часцінак, якія ўшчыльняюцца, тканка іх цела не мяняе аб'ёму пры любой нагрузцы.



**Падводная атамная лодка ЗША «Плунгер» ля берагоў Японіі.**

Адны з самых складаных і малазразумелых канструкцый — «біялагічныя компасы», або, правільней, цэлая сістэма біялагічных прыстасаванняў, якая дае магчымасць марскім істотам беспамылкова арыентавацца ў падводнай тоўшчы. Відаць, тут адыгрывае вялікую ролю і нейкі загадкавы фенамен памяці. Велічынёй з запалку, маляўкі гарбушы ідуць у мора. Праходзіць два гады, і дарослыя асобіны гарбушы вяртаюцца да месца ранейшага нерасту. Лічынкі угра, перабіраючыся з Саргасава мора да берагоў Еўропы, растуць там 10 гадоў, і затым вяртаюцца назад, прычым трапляюць дакладна да тых месц узбярэжжа, адкуль выйшлі.

Вывучаючы сакрэты падводных насельнікаў, спецыялісты па біёніцы ўсё больш упэўніваюцца ў тым, што ў вялікага вынаходніка — прыроды ёсць чаму павучыцца. І не проста павучыцца, але і выкарыстаць на практыцы многа з «жывых патэнтаў».



**Першы «ТУ—104» на варшаўскім аэрадроме.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

**Суп бульбяны з грыбамі**

Сухія баравікі папярэдне замачыць у халоднай вадзе, прамыць, заліць халоднай вадой і паставіць варыць. Звараныя грыбы яшчэ раз добра прамыць, нарэзаць буйнай саломкай. Цыбулю, моркву, нарэзаныя саломкай, падсмажыць на масле, у канцы смажання дадаць грыбы і яшчэ пасмажыць 5—7 мінут. Бульбу нарэзаць часначком, пакласці ў грыбны адвар і варыць 15—20 мінут, у канцы варкі пакласці падсмажаную цыбулю, моркву і грыбы, варыць яшчэ 5—7 мінут. Пры падачы ў талерку пакласці смятану, зяленіва.

На 4 порцыі: баравікоў сухіх 32 г, бульбы 10—12 шт. морквы 1 шт., цыбулі рэпчатай 1 шт., масла сметанковага 2 ст. лыжкі, смятаны 4 ст. лыжкі, пятрушка.

## КАРОТКІЯ ПАРАДЫ

- Калі кафля страціла бляск, пратрыце яе газетнай паперай, змочанай у растворы нашатырнага спірту.
- Свежую пляму ад тлушчу пасыпце талькам, які прадаецца ў аптэцы. Праз некалькі гадзін тальк выдаліце тонкай чыстай анучкай.
- Шкарлупінне ад яечак не трэба ніколі выкідаць. Разатрыце яго ў парашок, дадайце крыху цукровай пудры і атрымаеце цудоўнае ўгнаенне для пакаёвых кветак.
- Каб гародніна для вінегрэту была больш спажыўная і смачная, гатуйце яе не ў вадзе, а на пары.
- Лімонны сок вельмі карысны для тлустай скуры. Калі ў яго дадаць крыху цукровай пудры, атрымаеце добры ласьён.
- Кропляй лімоннага соку можна ачысціць нажа, зняць з сурвэткі пляму ад чаю, іржы, плямы ад чарніла і крыві, надаць белізну мармуру, які пажаўцеў ад агню, бляск сумачцы з цёмнай скуры, пачысціць медныя вырабы.
- Разрэзаная цыбуля не засохне, калі пакладзеце яе зрэзаным бокам на сподачак з соллю.




Дзейнасць Вікторыі не магла заставацца незаўважанай. Нягледзячы на канспірацыю, многа, занадта многа падпольшчыкаў ведала яе.

Вікторыю хвалявалі падазрэнні. Падпольшчык Толік Вялікі, што жыў з ёю ў адным доме, занадта цікавіўся справамі, якія яго не датычылі. Аднойчы пад вялікім сакрэтам ён паведаміў, што ў Мінск прыбылі прадстаўнікі з Масквы і хочуць пазнаёміцца з некаторымі падпольшчыкамі і з ёю асабіста.

Яна пайшла з Толікам на ўмоўленую яўку. Там нейкія людзі прапанавалі ёй назваць прозвішчы актывістаў. Вікторыя здагадалася: тут нешта не тое. Непрыкметна рабіла знакі Толіку: маўчы! А той сыпаў, як з мяшка, называў адну клічку за другой. Але прозвішчаў ён не ведаў. Ці не можа Віця расшыфраваць гэтыя клічкі? Яна сказала:

— Прозвішчы? Чаго не ведаю, таго не ведаю.

— Мы ж не можам па клічках прадставіць падпольшчыкаў да ўзнагарод!

— Нічым не магу памагчы...

У той дзень яе не схапілі, не сталі катаваць, не кінулі за турэмныя краты. Вікторыя ўсё разумела. Суткамі не выходзіла з бальніцы. Сястра, адчуўшы нядобрае, пабегла да яе. Гэта было 27 лістапада 1942 года, у дванаццаць гадзін.

— Віцечка, бяжы, бяжы! — прасіла Марыя Фёдараўна.

А Вікторыя адмоўна ківала галавою:

— Бегчы мне позна. Бачыш таго бамбізу? Ён сочыць за кожным маім крокам!

Яна не памылілася. У той жа дзень яе арыштавалі...

І вось Вікторыю вядуць пад аховай па знаёмых вуліцах. Ліхаманкава стукае сэрца. Чаму вядуць на кватэру? Там жа яна нічога падазронага не пакідала.

Знаёмы двор. Рыпнулі дзверы, і яе ўвялі ў пакой. Гестапавец падбег да ложка, адхінуў падушку, а там паздрадніцку блішчыць наган, ляжыць узрыўчатка.

— Гэта што? — зароў гестапавец.

— Не ведаю, гэта не маё! — сказала Вікторыя. — Нейкі мярзотнік падкінуў!

Яна ведала, што, апрача Анатоля, ніхто не меў ключоў ад кватэры...

* * *

У яе былі вялікія чорныя вочы і густыя, пышныя чорныя валасы. У кожнага, хто трапляў у турму, найперш стрыглі валасы. А ў яе — не адважыліся, не паднялася рука ў турэмнага цырульніка... Вікторыю ў турме звалі «Прыгожая». Яна сапраўды была прыгожая — і абліччам, і душою. Прыгожы і моцны чалавек.

Дваццаць адзін дзень ішлі допыты. У падвале аднаго з корпусаў мёдінстытута яе падвешвалі на дыбе за ногі, потым за рукі. Уціскалі ў каменны мяшок, дзе немагчыма было нават сесці і можна было толькі стаяць не варухнуўшыся. Праз яе прапускалі электрычны ток, пад пазногці заганялі іголкі... Білі да непрытомнасці, аблівалі вадой і зноў катавалі. Двое сутак яна ляжала як нежывая, ёй рабілі ўколы, а потым зноў катавалі і патрабавалі: скажы, назаві!

Яна маўчала. Нават самыя заўзятыя жывадзёры дзівіліся. Нарэшце, праз 21 дзень, Вікторыю кінулі ў турэмны лазарэт.

...І ў турме па вуліцы Валадарскага, калі пабялела галава, калі абрэзалі пасля тыфусу цудоўныя валасы, усё роўна яе называлі прыгожай.

Разам з іншымі зняволенымі яе пачалі выводзіць на работу за турэмную браму. Сябры з бальніцы хадзілі па вуліцах і шукалі Віцю, неслі ёй паесці. Марыі Фёдараўне аднойчы пашанцавала: яна знайшла Вікторыю на рагу Камсамольскай і Карла Маркса. Сунула паўлітра самагонкі ў рукі паліцаю, і той дазволіў сёстрам пагаварыць.

Яны сядзелі на кучы друзу. У Марыі Фёдараўны цяклі слёзы, душа разрывалася ад болю: што яны, гады, вылюдкі праклятыя, зрабілі з Віцяй!

А Віця не плакала. Яна гаварыла:

— Запомні, і перадай, што Толік Вялікі — здраднік. Хай асцерагаюцца.

Усяго некалькі мінут працягвалася сустрэча. Паліцай самагонку ўзяў, а гаварыць доўга не дазволіў. Марыя Фёдараўна абняла Віцю, пацалавала...

Лёс падараваў сёстрам яшчэ адну сустрэчу. Марыі Фёдараўне паведамілі, што Віцю пагоняць працаваць на Акцябрскую вуліцу. Ад нечаканасці яна разгубілася: што перадаць? У хаце нічога не было. Кінулася да суседзяў — і ў іх, як на тое гора, нічагуткі няма. Так і пабегла з кошыкам, на дне якога ляжалі акрайчык хлеба і два памідоры. Ды толькі не давялося і гэтага перадаць з рук у рукі: вартавы нават блізка не падпусціў. Доўга стаяла на вуліцы і здалёку глядзела са смуткам на Віцю. А тая ўбачыла, што сястра прыбегла босая, — зняла цяжкія калодкі са сваіх маленькіх ног, укінула ў кошык. Назаўтра Марыя Фёдараўна знайшла нейкі абутак і цёплыя панчохі, панесла на старое месца, але арыштаваныя там больш не працавалі...

Вікторыю любілі. Яе сэрца было адкрыта людзям. Вярнуўшыся з цяжкай работы, яна нейкім асаблівым пачуццём адгадвала, каму ў гэтую мінуту найбольш цяжка. Непрыкметна падыдзе, скажа ласкавае слова ці проста моўчкі пасядзіць побач.

Вясёлая і жвавая па натуры, умела яна падбадзёрыць, развесяліць. У турме яе голас змяніўся, але ўсё яшчэ быў прыемны і прыгожы. Як ні горка было вязням, а душэўная песня хоць на некаторы час адцягвала ад невясёлых думак, здымала роспач і боль.

Як сапраўдная артыстка (калісьці Віця працавала ў тэатры Галубка), Віця чытала вершы. Умела складаць вясёлыя, з'едлівыя прыпеўкі пра гітлераўскіх вылюдкаў. Яна спявала, а вязні смяяліся. Смяяліся нават і тыя, каго заўтра чакала смерць.

Віці ўдавалася пасылаць запіскі на волю. Вось адна з іх.

«Не гаруй, родная, — пісала яна сястры. — Будзем усе разам. Узыдзе і наша зорка калі-небудзь. Не кланяйся, не лі слёз, няхай нашы ворагі не бачаць іх, трымай галаву вышэй. Бачыш,

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЕЧАРЫНА ПРЫСВЕЧАНАЯ 30 ГАДАВІНЕ ВЕРАСНЯ Ў СЕМЯНОЎЦЫ

30 жніўня г.г. адбылася ў грамадскай святліцы ў Семяноўцы (Гайнаўскі павет) вечарына прысвечаная 30 гадавіне гітлераўскай напасці на Польшчу.

Вечарыну падрыхтавалі члены мясцовай партыйнай арганізацыі, члены мясцовага БГКТ і прадстаўнікі Праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы. У 19 гадзін 30 мінут вечарыну адкрыў сакратар мясцовага прэзідыума ГРН Юрка Кіслы. Даклад прачытаў актывіст Гайнаўскага аддзела БГКТ Янка Цялушэцкі. Пасля даклада дэманстраваўся кінафільм. На вечарыну прыйшло больш 150 асоб.

У нядзелю, 31 жніўня г.г. Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў у Семяноўцы танцавальную вечарыну.

**Янка Цялушэцкі**

## ЗВЫШ 15 ТЫСЯЧ

Звыш 15 тысяч дзяцей і моладзі пачало навуку ў гэтым школьным годзе ў бельскіх школах, ліцэях, тэхнікумах і прафесіянальных школах. На канферэнцыях, якія адбыліся ў канцы жніўня, шмат заслужаных педагогаў атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. Між іншым, Сярэбраным Крыжам Заслугі былі ўзнагароджаны: Марыян Татарчук — школьны інспектар, Мечыслаў Крынскі і станіслаў Дамброўскі — кіраўнікі школ. **фаль.**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ

29 жніўня 1969 года адбылася канферэнцыя кіраўнікоў школ Беластоцкага павета. На гэтай канферэнцыі заслужаным настаўнікам былі ўручаны ўзнагароды Рады Дзяржавы.

У дыскусіі, якая разгарнулася пасля даклада, прачытанага Інспектарам, настаўнікі гаварылі аб працы сваіх школ, а асабліва аб поспехах і недахопах у працы. Гаварылася таксама аб супрацоўніцтве з асяроддзем.

**Мікола Краўчук**
**Патока**

## ГРЫБЫ

Пасля ападкаў дажджу апошнім часам у Белавежскай пушчы паявілася шмат усялякіх грыбоў: баравікоў, маслюкоў, падбярэзнікаў, бабак і г.д.

На пашах знойдзена многа пячарак. Усё больш жыхароў прылясных вёсак на Гайнаўшчыне ходзіць па грыбы. Па грыбы ездзяць таксама поездам жыхары Гайнаўкі. Высядаюць яны на прыстанках Гнілец або Нязнаны Бор. Як відаць, ужо можна арганізаваць экскурсію па грыбы ў Белавежскую пушчу.

**Янка Цялушэцкі**

## ПАЖАР

Увечары 28 жніўня ад маланкі загарэлася клуня грам. Антона Казімерука ў вёсцы Грабавец. Хуткая дапамога пажарнай каманды з суседняй вёскі Дубічы Царкоўныя не дапусціла, каб агонь перакінуўся на суседнія будынкі. Аднак клуня А. Казімерука са збожжам, сенам і сялянскімі прыладамі згарэла дашчэнту.

**П. Дубовіч**




### Дарагое Сэрцайка!

Год таму назад я пазнаёмілася з Колем, які жыве ў вёсцы пятнаццаць кіламетраў ад нашай. Ён часта да мяне прыязджае і мы нават ужо гаварылі аб шлюбе. У палове кастрычніка ў вёсцы Колі фест. Мяне Коля і яго бацькі запрасілі таксама, бо, як сказаў Коля, хочуць пабачыць нарэшце сваю будучую нявестку. Вядома, я хацела б спадабацца. Хачу якасьці цікавей, прыгажэй, як заўсёды, апрануцца. Хацелася б мець штосьці новае. Сяброўка мне казала, што модныя цяпер рэчы з дзяніны. Але што зрабіць, сукенку ці гарсонку? Я маю аніляну прыгожага мёдавага колеру. Маю яе 80 дэкаграмаў. Парай, што зрабіць? Мне 21 год. Чакаю хуткага адказу.

**Вера з Гайнаўшчыны**

Вера! Гэтай аніляны хопіць і на гарсонку і на сукенку, яшчэ і застанецца. Залежыць гэта ад таго, якім узорам будзеш рабіць. Цяпер рэчы робленыя з аніляны на машыне ці ўручную вельмі модныя. Таксама модныя гарсонкі, як і сукенкі, камізэлькі, блузкі і т.п. Але калі ты хочаш выбраць сукенку ці гарсонку, я б табе раіла ўзяць пад увагу сваю фігуру. Калі маеш прыгожую фігуру, дык усё роўна што выбярэш, што табе лепш падабаецца. Калі маеш якія-небудзь няправільнасці ў фігуры, тады раю лепш гарсонку, яна тушуе недахопы. Спадніцы і сукенкі модныя цяпер кароткія, але трэба канешне звярнуць увагу на свае ногі. Таму раю табе доўгасць спадніцы (ці сукенкі) рабіць у залежнасці ад зграбнасці сваіх ног.

**Сэрцайка**

## ДОБРЫ АГРАНОМ

Кастусь Наумчык два гады працуе грамадскім аграномам у Нарве. Працу сваю любіць і выконвае са знаўствам. Нічога тады дзіўнага, што хутка здабыў аўтарытэт у вачах сялян. Асабліва многа часу прысвячае працы з моладдзю ў калектывах сельгаспадрыхтоўкі. На тэрыторыі грамады Нарва, у двух калектывах, у якіх Наумчык з'яўляецца апекуном, прысвойвае тайны сучаснай гаспадаркі 39 маладых хлебаробаў. Найбольш цешыць агранома факт, што веды, здабытыя ў калектыве, маладыя гаспадары неадкладна прымяняюць на практыцы. Эфекты гэтага гаспадаравання бачаць усе. Да новых метадаў схіляецца ўсё больш людзей.

Кастусь Наумчык разумее, што і ён павінен павышаць свае кваліфікацыі, разбірацца ў апошніх навінках сельскагаспадарчай тэхнікі, таму вучыцца ён завочна ў Вышэйшай сельгасшколе ў Любліне. Нягледзячы на навуку і працу, знаходзіць час на актыўную грамадскую дзейнасць. З'яўляецца ён членам Грамадскага праўлення ЗМВ, а ў Грамадскім камітэце ПАРП выконвае адказную функцыю сельскагаспадарчага сакратара. З'яўляецца таксама сакратаром Павятовай рады сельгаспадрыхтоўкі.

**Віталіс Назарук**

## НА КАРЫСЦЬ ЛЮДЗЯМ

На адрэзку рэчкі Арлянка, паміж вёскамі Рудуты і Рутка, ідуць меліярацыйныя работы. Важнейшыя з іх выконваюцца машынова і праходзяць хутка і ўмела. Да зімы запланаваны ўчастак мае быць поўнасцю зменіраваны. Сенажаці тут (штогод амаль дагэтуль вадою і балотам забруджаныя) будуць даваць належную карысць людзям.

Таксама на гэтай рэчцы Арлянцы каля самай вёскі Рэдуты будуецца новы бетонны мост.

**П. Дубовіч**

## УРАЧЫСТЫ ПАЧАТАК

2 верасня ў бельскім ліцэі, як і ў іншых школах, зазваніў першы школьны званок. Усе вучні святочна апрануты разам з настаўнікамі сабраліся на ўпрыгожаным калідоры. Затым дырэктар Мікалай Гайдук прывітаў школьную моладзь. У 9 гадзін раніцы вучні выслухалі па радыё прамову міністра Яблонскага.

1 верасня — трыццатая гадавіна II сусветнай вайны, і таму дырэктар гаварыў таксама аб вайне і аб яе трагічных выніках для народа.

**Вера Ахрымюк**
бельскі беларускі ліцэй

## НОВЫ ШКОЛЬНЫ ГОД

2 верасня г.г. вучні стараляўкоўскай школы (Гайнаўскі павет) сабраліся ля школы, дзе выслухалі разам са сваімі настаўнікамі прамову міністра Яблонскага. Потым было прывітанне кіраўніка школы. Аб 30 гадавіне гітлераўскай напасці на Польшчу расказаў Я. Цялушэцкі. Затым вучні выступілі з вершамі і песнямі. Аб развіцці беларускага школьніцтва на Беласточчыне, аб шанаванні беларускай мовы і культуры расказаў Я. Цялушэцкі. На заканчэнне ўрачыстасці моладзь хадзіла на магілу салдата, дзе паклала букеты кветак.

**Я. Цялушэцкі**

---

колькі разоў яны мяне адну пахавалі. Нас не так лёгка забіць і пахаваць, мы яшчэ жывём... Не гаруй і не плач па мне. Не палохайся маіх слоў, трэба быць да ўсяго гатовай... Вер, што будзе яшчэ шчасце».

Збыліся словы Вікторыі. Толькі сама яна не дажыла да Перамогі.

На работу яе не выпусцілі. Перавялі ў камеру № 39. Чуткамі поўнілася турма: усе, хто трапіў туды, будуць знішчаны.

Сваю чорную справу фашысты здзейснілі ў ноч з 6 на 7 лістапада 1943 года.

* * *

На тваіх грудзях, Вікторыя, ніколі не зіхацеў ордэн Леніна. Ты атрымала яго пасмяротна. Цябе няма сярод нас. Ты не можаш сама прыйсці да людзей і расказаць усё пра сябе. А мы, на вялікі жаль, ведаем яшчэ вельмі мала. Наш расказ далёка не поўны. Не крыўдуй на нас, Віця. Тваіх сяброў па барацьбе асталося мала, з кожным годам іх менш, час сціpae ў іх памяці мінулае. І ўсё ж ты з намі, Віця! Моладзь лічыць цябе сваёй, бо і ты ў тыя грозныя гады была маладая. Твае аднагодкі таксама лічаць цябе сваёй, бо цяпер і табе было б шэсцьдзесят, як і ім. Ты належыш, не толькі нам, ты будзеш належаць і тым, хто яшчэ не нарадзіўся. Такія як ты — сумленне і гонар народу.

У святочныя дні мы ідзем на плошчу Перамогі. Ідзем па Алеі Герояў, там ёсць і твой партрэт. Там вакол высачэзнага абеліска ў памяць тых, хто загінуў, палымнеюць чырвоныя цюльпаны. Ля падножжа абеліска мы кладзем кветкі. Гэтыя кветкі і табе, Вікторыя. Бо Вікторыя — гэта Перамога!

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Скончылася акупацыя Мінска, завяршылася гераічная старонка летапісу бальніцы, старэйшай медыцынскай установы нашай рэспублікі. Набліжалася поўная перамога над ворагам. І мінскія медыкі ўнеслі ў яе свой уклад. Многія з тых, пра каго мы пісалі, былі ўдастоены ордэнаў і медаляў.

Яўген Уладзіміравіч Клумаў, чалавек вялікай волі і мужнасці, быў цэнтральнай фігурай бальнічнага падполля. Светлы вобраз вучонага, урача, антыфашыста з любоўю і ўдзячнасцю ўспамінаюць і людзі, якія яго ведалі, і тыя, хто даведаўся пра яго цяпер. Клумаў пасмяротна ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа бальніца, тая самая Першая Савецкая, пра якую ўвесь час ішла гаворка на гэтых старонках. Вуліца ў раёне трактарнага завода ў Мінску таксама названа яго імем. На адным з корпусаў бальніцы, дзе працаваў прафесар і бясстрашна змагаўся з ворагам у гады вайны, прымацавана мемарыяльная дошка. Яна заўсёды будзе напамінаць аб тых, хто аддаў жыццё за свабоду Радзімы.

Выжыла, прайшоўшы праз турмы, лагеры смерці, палон на чужыне, урач Людміла Міхайлаўна Кашычкіна. Цяпер яна пенсіянерка, вядзе вялікую грамадскую работу. Яе дачка Наташа, тая самая пяцігадовая некалі дзяўчынка, што кінулася ў калону зняволеных, вырасла, стала, як і маці, дзіцячым урачом, працуе ў Завадскім раёне Мінска.

Працуюць і па сённяшні дзень у бальніцах горада Усціння Жогла, Ганна Навіцкая, Марыя Жлоба, Вера Кароль, Альберта Сідаровіч, Наталля Сінькевіч. Пенсіянерамі сталі ўрач Вера Гурыновіч, медсёстры Марыя Ермачонак, Настасся Батура. Урачы, якія пайшлі з бальніцы ў партызанскія атрады, — Анатоль Свістуненка, Міхаіл Уладысік не дажылі да сённяшніх дзён... Няма сярод нас і Марыі Піліпушка і Ганны Мохавай — гэтых бясстрашных патрыётак, імёны якіх з любоўю ўспамінаюць іх калегі і таварышы па барацьбе.

Нам давялося сустракацца з некаторымі былымі савецкімі воінамі, якіх выратавалі ўрачы, сёстры і санітаркі бальніцы. Працуе ў Міністэрстве мантажных і спецыяльных работ Віталь Арэхаў. Васіля Бачарова, які стаў журналістам, лёс занёс у далёкую Варкуту. Пра тыя далёкія, але незабыўныя дні ён раскажа ў сваёй кнізе, якую рыхтуе да друку.

У цяжкай барацьбе з фашызмам загінуў Мікалай Іванавіч Талкачоў, былы камісар 85-ай стралковай дывізіі.

Былы галоўны ўрач бальніцы Барыс Зубараў перад вызваленнем Мінска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў спрабаваў уцячы разам з ворагам. За супрацоўніцтва з немцамі і за сваю віну перад савецкім народам ён панёс адпаведнае пакаранне. Не пазбегла строгай адказнасці перад савецкай законнасцю і Таццяна Белікава. Здрадніца Ярашэвіч уцякла з немцамі ў час наступлення Савецкай Арміі. Уцякаючы, украла грошы, якія належалі бальніцы, і некалькі грамаў найдаражэйшага медыкаменту — радыю.

...Жывыя і мёртвыя! Людзі ў белых халатах, людзі самай гуманнай прафесіі ў свеце. Мы расказалі пра іх жыццё і дзейнасць у вайну, пра цяжкія выпрабаванні волі і мужнасці, грамадзянскага абавязку перад народам і вернасці сваёй Радзіме. Расказалі, паводле жывой чалавечай памяці і дакументаў.

ХУТКА НОВАЯ ЦІКАВАЯ ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ АБ АПОШНЯЙ ВАЙНЕ.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Przygody Wernera Holta" (NRF), 23—24. „Zabawa w masakrę" (franc.), 25—26. „Ostatnie dni" (polski), 27—28.

**Нараўка**

„Salto" (polski), 24—28.

**Нарва**

„Tabliczka marzenia" (polski), 24—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Kierunek Berlin" (polski), 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Popioły" (polski), 23—24. „Ostatnie dni" (polski), 25—26.

**Міхалова**

„Zejście do piekła" (polski), 23—24. „Bokser" (polski), 25—26. „Człowiek z M-3" (polski), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Żyrafa w oknie" (czeski), 23—24. „Taki duży chłopiec" (radz.), 25—26. „Za frontem" (radz.), 27—28.

**Янаў**

„Obok prawdy" (polski), 24—28.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Manewry Dniepr" (radz.), 23—24. „Wehikuł czasu" (USA), 25—26. „Maskarada szpiegów" (angl.), 27—28.

**Мельнік**

„Czas przeszły" (polski), 23—24. „Aby kwitło życie" (polski), 25—26. „Człowiek z M-3" (polski), 27—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Krzyżacy" (polski), 27—28.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861

# ЗВЫЧАЙНАЯ СВАРКА

Куця падарыў на імяніны сыну Паташонскага хлопаўку, якую купіў у магазіне «Дзіцячая цацка», калі ішоў у госці.

— Цудоўная штучка, — заўважыў тата. — Паспрабуем.

Узяў, стрэліў і... разбіў лямпу.

—І я хачу! — закрычаў малыш. — Хачу таксама ў лямпу!

— Засцеражы нас, божа, ад сяброў, — прашаптала гаспадыня і вырвала з дзіцячых рук хлопаўку. — Ад ворагаў засцеражэмся самі...

Сказала быццам жартам. Аднак непрыемнае адчуванне засталося...

Праз некалькі дзён Паташонскія прынеслі сынку Куцяў пугач памерам з пісталет з не абы-якім запасам зарадаў. Пагутарылі хвілінку, паслухалі канонаду і гукі бітага шкла, якія раздаваліся у суседнім пакоі, і з усмешкай на вуснах пакінулі кватэру сяброў.

У гэты ж вечар у госці да Паташонскіх прыйшлі Куці. У яго было завязана вока, у яе забінтавана рука.

— Забеглі да вас, каб перакінуцца слоўцам, — заявіла пані Куця і пагладзіла па галоўцы гаспадарскага сыночка. — Тут табе, Ясік, губны гармонік...

— Мы не перашкаджаем? — запытаў Куця.

— Не, нам вельмі прыемна, мы ўдзячны, — у адзін голас адказалі Паташонскія.

Аб далейшай гутарцы не магло быць і гаворкі, бо малыш з усіх сіл дзьмуў у гармонік. Моўчкі выпілі чай. Развіталіся з кіслымі выразамі на тварах.

Канчаткова сапсаваліся іх адносіны ў наступны дзень, калі Паташонскі падарыў малому Куці барабан.

— Ну не! — сказала маці. — Гэты падарунак не для дзіцяці!

— Чаму? — здзівілася Паташонская. — Вельмі прыемны інструменцік і надзвычайна трывалы...

— Аддай гэта, Ясік, назад! — загадала Куця ледзяным, як з халадзільніка, голасам. Але малы так заўзята барабаніў, што не пачуў.

— Аддай гэта! — крыкнула яна моцна.

Тады Янка падняў такі віск, што заглушыў нават бубен.

Куці хадзілі з ватай у вушах. Суседзі выклікалі міліцыю.

У той жа дзень у кватэры Паташонскіх раздаліся гукі трубы. Яны былі надзвычай моцнымі і непрыемнымі. Пан Куця прытаіўся на лесвіцы і ўручыў малому Паташонскаму чарговы падарунак.

— Гэта ўжо дрэнь, — вырашыў Паташонскі. — Разумею, прынесці што-небудзь дзіцяці дамоў, але падпільноўваць на ўсходках... Яны яшчэ мяне ўспомняць!

І сапраўды ўспомнілі.

Набор «Буду стаrange» выклікаў у пані Куці істэрычны прыпадак. Калі яна вярнулася з мужам дамоў, іх сынок ужо канчаў перапілоўваць шафу. На падлозе валялася крэсла без ножак. У дзвярах свяціліся розных дыяметраў дзіркі. Куці сталі і цяжка дыхалі, не мелі нават на чым прысесці.

Раптоўна, ні слова не сказаўшы, Куця пакінуў кватэру.

Праз гадзіну ён таксама выкарыстаў адсутнасць бацькоў і падарыў сыну Паташонскіх камплект пад назвай «Юны хімік».

Гэта было ўчора. У момант, калі з-пад майго пяра выплываюць радкі гэтага апавядання, радавая сварка паміж Паташонскімі і Куцямі ўжо практычна патухла.

Ад'ехала ўжо нават пажарная каманда.

**Анатоль Патэмкоўскі**






### З ФРАНЦУЗСКАГА

Муж, які толькі што даведаўся пра здраду сваёй жонкі, вяртаецца дадому разлаваны і яшчэ з парогу крычыць:

— Я ведаю ўсё!

— Задужа хвалішся, — спакойна адказвае жонка. — Калі ўсё ведаеш, адкажы, у якім горадзе памёр Людвік XII?

### ЦЕШЧА

Сустрэліся два сябры.

— Чуў я, што ты ажаніўся. А цешча ў цябе якая?

— Цудоўная — культурная, далікатная, ласкавая...

— Шчаслівчык!

— Але ведаеш, я яе мала яшчэ пазнаў. Яна, бедная, памерла ўчора, даведаўшыся, што яе дачка выйшла за мяне замуж.

### НЕ МАГЛІ

Веласіпедыст, праязджаючы па алеі батанічнага саду, наляцеў на велізарнае дрэва і разбіў машыну. Расплюшчыўшы вочы, ён убачыў таблічку: «Секвойя. Прывезена з Мексікі».

— Ліха на яе! Не маглі пакінуць там, дзе яна расла!

### ЧАМУ

Муж — жонцы:

— Здзіўляюся, чаму жанчыны звяртаюць больш увагі на сваю знешнасць, чым на развіццё свайго інтэлекту?

— Таму што мужчыны часта бываюць дурныя, але вельмі рэдка — сляпыя.

### ЦАР ЗВЯРОЎ?

— Га, знайшлі каго зваць царом звяроў! — пішчаў камар. — Я таго льва не раз кусаў! Нават за самы нос! —

**П. Шыбут**

Без слоў.

### ПАСАГ

Італьянец, бацька трох дачок, паказвае маладому чалавеку іх фатаграфіі.

— Я не дужа багаты, але кожная з маіх дачок, выходзячы замуж, атрымае сціплы пасаг, 25-гадовай Марыі асігнавана, напрыклад, 200 тысяч лір, Беатрычэ, якой цяпер 35, — 350 тысяч лір. Нашай трэцяй дачцы Джуліі ўжо 40 і, выходзячы замуж, яна возьме 500 тысяч лір.

— А няма ў вас чацвёртай... так гадоў пад пяцьдзесят?

### У СУДЗЕ

Суддзя (сведцы):

— На падставе чаго вы рашылі, што абвінавачваемы быў п'яны?

— А таму, ваша чэсць, што ён трос тэлеграфны слуп, а потым нахіляўся і шукаў яблыкі.



— Табе я не дазволю глядзець гэту карціну.



### Талаваломка

Напішыце бракуючую літару:

К — Е = Е
Р — Е = К
Ц — К = ?

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:



### ДЗЕ

— Дзе была мая галава, калі я згадзілася выйсці за цябе замуж? — з плачам спытала жонка.

— На маіх грудзях, — даў дакладную даведку муж.

### ТРЫВАЛЫЯ

— Гэтыя кашулі надзвычай трывалыя. Ніякае мыццё ім не страшна. Яны проста смяюцца над пральнымі машынамі!

— Гэта я ведаю па вопыту — некалькі такіх маіх кашуль ужо лопнулі ад смеху.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Бэаты і Эвы Панасюк з вёскі Гозьна, Беластоцкага павета, Ніны Марчук, Віктара Харытанюка, Анатоля Паўлючука з вёскі Цялушкі, Бельскага павета, Валі Петрашчук з Гайнаўкі змяшчаем песню п.з.

## Po ten kwiat czerwony

Idę, wrócę,
O nic nie pytaj dziś.
Przyjdę — nie zasmucę,
Powiem po co musiałem iść.

Żołnierz dziewczynie nie skłamie,
Chociaż nie wszystko jej powie.
Żołnierz zarzuci broń na ramię
Wróci — to resztę dopowie.

Wstęgą szos, miedzą pól złoconych,
Krętą ścieżką poprzez las.
Po ten kwiat —
Po ten kwiat czerwony
bis
skoro przyszedł na to czas.

Dla tych co wiernie czekają
Będą żołnierze śpiewali
O tym, jak pięknie zakwitają
Kwiaty czerwieńsze od malin.

Wstęgą szos itd...

### ВЫПРАВІЎСЯ

Трашчыць ад п'янкі галава ўся.
Ніколі так не напіваўся.
Бадай, што выпію лепей квасу.
Не п'ю гарэлкі... да авансу.

**М. Вяршынін**



Без слоў.




### Па строгаму адбору



Бельгійскай сакрэтнай службе патрабуецца звыш ста чалавек з «мінімальнай вастрынёй зроку — не менш сямі дзесятых у адным і трох дзесятых у другім воку». Згодна з умовамі прыёму на работу, яны павінны валодаць здольнасцю падслухоўваць размову на адлегласці пяці метраў. Галоўная мэта службы падглядання і падслухоўвання — ахова штаб-кватэры НАТО ў Брукселі і Касто.

Але на гэты заклік, як паведамляе друк, адгукнулася не больш за 20 чалавек. Не соладка даводзіцца бельгійскай сакрэтнай службе.

### Пал Дзьюлоі

Пал Дзьюлоі, вядомы венгерскі крытык і выкладчык універсітэта, быў вельмі маленькі ростам, і з яго часта пакпівалі. Аднойчы працаўнік вычарпаў свае доказы, ён злосна сказаў:

— Калі не змоўкнеш, я засуну цябе ў кішэню.

Славуты крытык вельмі дружалюбна адказаў:

— У такім разе ў цябе будзе больш у кішэні, чым у галаве.




**Калі ў галаве нехапае аргументаў, іх пачынаюць шукаць у руках.**